Ю. Бохан

# Зброя Вялікага княства Літоўскага 1385—1576



Ю. Бохан

# Зброя Вялікага княства Літоўскага 1385—1576



Мінск
«Беларусь»
2003

УДК 623:94(476) «1385—1576»
ББК 68.8+63.3(4Беи)
Б 86

**Бохан Ю.**
Б 86 Зброя Вялікага княства Літоўскага 1385—1576 / Ю. Бохан. — Мн.: Беларусь, 2003.— 88 с.: іл.

ISBN 985-01-0469-4.

Выданне ставіць перад сабой мэту прадставіць у максімальна даступнай форме матэрыял, які паспрыяў бы разуменню спецыфікі развіцця ваенна-тэхнічнай думкі на землях, што калісьці ўваходзілі ў склад шматэтнічнай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага. Прыводзяцца найлепшыя ўзоры выяўленчых крыніц, а таксама рэканструкцыі, выкананыя аўтарам, шэрага мадэлей узбраення, тыповых для розных адрэзкаў часу ў рамках азначанага перыяду. Выданне зацікавіць як спецыялістаў, так і шырокае кола чытачоў.

**УДК 623:94(476) «1385—1576»**
**ББК 68.8+63.3(4Беи)**

***Навукова-папулярнае выданне***

***БОХАН Юрый Мікалаевіч***

**Зброя**
**Вялікага княства Літоўскага**
**1385—1576**

На беларускай мове

Адказны за выпуск *Я.В. Малашэвіч.* Рэдактар *С.У. Пешын.* Мастакі *Ю.М. Бохан, Т.А. Галаўнёва.* Тэхнічны рэдактар *Т.А. Тарасенка.* Камп'ютэрны дызайн і вёрстка *А.А. Нячая.* Карэктары *Л.Р. Кузьміна*, *А.З. Ліпень.*

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў 14.08.2003. Фармат 60×84 1/8. Бумага лёгкамелаваная. Гарнітура «Ньютан». Афсетны друк. Ум.друк.арк. 10,23. Ул.-выд.арк. 8,68. Тыраж 3000 экз. Зак. 2302.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларусь» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 2 ад 31.12.2002. 220004, Мінск, пр. Машэрава, 11.

Рэспубліканскае унітарнае паліграфічнае прадпрыемства «Баранавіцкая ўзбуйненая друкарня». 225320, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

© Бохан Ю.М., тэкст, рэканструкцыі, 2003
© Нячай А.А., мастацкае афармленне, 2003
© УП «Выдавецтва «Беларусь», 2003

**ISBN 985-01-0469-4**

*Маёй жонцы Алёне і сыну Францішку прысвячаецца*

# УВОДЗІНЫ



развіцці еўрапейскай ваенна-тэхнічнай думкі перыяд XIV — XVI стст. з'яўляецца адным з найбольш цікавых. Менавіта ў гэты час атрымалі распаўсюджанне тыя віды ўзбраення, што дазволілі характэрнай для сярэднявечча рыцарскай традыцыі дасягнуць максімальнай велічы, сімвалам якой стаў манументальны пласцінавы даспех. Аднак у той жа час зарадзіліся і пашырыліся тыя віды наступальнага ўзбраення, якія, у рэшце рэшт, і паклалі канец панаванню на палях бітваў закаваных у сталь рыцараў і распачалі новую эру ваеннага мастацтва.

Тым больш цікавым уяўляецца перыяд XIV — XVI стст. у гісторыі вайсковай справы Вялікага княства Літоўскага. Доўгі час ізаляванае ад хрысціянскай Еўропы сваім статусам язычніцкай дзяржавы, яно пасля заключэння Крэўскай уніі 1385 г. досыць імкліва ўключаецца ў шэраг еўрапейскіх краін, набываючы ўсю характэрную для іх атрыбутыку. Ці не ў першую чаргу гэта тычылася ваенна-служылага люду, які ў гэты перыяд не толькі актыўна замацоўваў свае эканамічныя і сацыяльныя пазіцыі, але і засвойваў заходнія традыцыі, моду, вайсковую манеру і ўзбраенне. Аднак дзякуючы свайму геаграфічнаму становішчу Вялікае княства Літоўскае адчувала і моцныя ўсходнія ўплывы, што надавала характару мясцовай вайсковай манеры самабытныя рысы.

На сягонняшні дзень мала хто, апроч абмежаванага кола вузкіх спецыялістаў, мае хоць якое-небудзь уяўленне пра ўзбраенне Вялікага княства Літоўскага XIV—XVI стст. Гэта дае падставу для фантастычнай трактоўкі баявога рыштунку нашых продкаў у творах мастацтва, гістарычнай літаратуры ды і, у рэшце рэшт, у свядомасці масавага чытача. Дадзенае выданне ставіць перад сабой мэту прадставіць у максімальна даступнай форме матэрыял, які паспрыяў бы разуменню спецыфікі развіцця ваенна-тэхнічнай думкі на землях, што калісьці ўваходзілі ў склад шматэтнічнай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага. Гэта спецыфіка заключалася не толькі ў адметнасці вырабляемага мясцовымі майстрамі ўзбраення, але галоўным чынам у спалучэнні і суіснаванні розных традыцый, дамінаванні на пэўных этапах элементаў баявога рыштунку, характэрнага для Захаду, Усходу, Поўначы ці Поўдня.

Асноўным прынцыпам пры падборы матэрыялу для дадзенага невялічкага выдання з'яўляецца максімальная дакладнасць. Таму аснову яго складаюць рэчы, непасрэдна звязаныя з рэаліямі Вялікага княства Літоўскага XIV—XVI стст., у тым ліку і з канкрэтнымі гістарычнымі асобамі. Выкарыстаны таксама матэрыялы з музеяў Беларусі і Літвы. Аўтар палічыў мэтазгодным прадставіць і ўзоры зброі, вырабленыя замежнымі майстрамі, але якія працавалі ў розныя часы на землях княства ці для прадстаўнікоў гэтай дзяржавы. У шэрагу выпадкаў аўтар апелюе да матэрыялу з Польшчы ці іншых краёў Еўропы, калі дакладна вядома, што аналагічныя рэчы ўжываліся ў Вялікім княстве, але не дайшлі да нашых дзён у мясцовым матэрыяле.

Велізарнае значэнне ў задумцы і рэалізацыі гэтай кнігі маюць гістарычныя рэканструкцыі ўзбраення, выкананыя на высокім прафесійным узроўні майстрамі гістарычнага клуба «Княжы Гуф». На сягоняшні момант ён з'яўляецца найбольш прыярытэтным у нашай краіне, калі гаварыць пра ўзровень выканання і адпаведнасць гістарычным рэаліям Вялікага княства Літоўскага XIV—XVI стст.

Для найбольш поўнага ўяўлення пра спосабы нашэння, спалучэння і выкарыстання асобных відаў зброі велізарнае значэнне мае выяўленчы матэрыял. У сувязі з гэтым прыводзяцца найлепшыя ўзоры выяўленчых крыніц, а таксама рэканструкцыі, выкананыя аўтарам, шэрага мадэлей узбраення, тыповых для розных адрэзкаў часу ў рамках азначанага перыяду. Выказваем спадзяванне, што яны хоць у нейкай меры будуць прыдатныя для тых, хто ілюструе тагачасныя гістарычныя рэаліі альбо проста цікавіцца імі.

# ЗАСЦЕРАГАЛЬНАЕ ЎЗБРАЕННЕ

## Баявыя нагалоўі

Шаломы

Прылбіцы

Капаліны і салады

Штурмгабы і шышакі

## Баявыя пакрыцці тулава

Пласцінкавы даспех

Пласцінавы даспех

Кальчужны і неметалічны даспех

Шчыты

# ЗАСЦЕРАГАЛЬНАЕ ЎЗБРАЕННЕ

## Баявыя нагалоўі

### Шаломы




айбольш раннім відам шлемаў, ужываных на землях Вялікага княства Літоўскага, былі так званыя шаломы, вядомыя яшчэ ў Старажытнай Русі. Характэрнай рысай старажытнарускіх шаломаў з'яўлялася выцягнутая ўгару форма звона (цэльнакаванага альбо скляпанага з некалькіх частак), прыкрываўшага толькі чарапную каробку. Істотным, але неабавязковым дадаткам да шалома была барміца — эластычнае, найчасцей кальчужнае пакрыццё вушэй, шыі, шчок і падбароддзя воіна. Барміца старажытнарускіх шаломаў мацавалася да звона наглуха, для чаго на ніжнім краі апошняга змяшчаліся спецыяльныя адтуліны. Часам замест барміцы ўжываўся каптур у выглядзе кальчужнай шапкі, якая насілася пад шлемам і мела падоўжаныя з бакоў і ззаду краі, што спадалі на плечы і маглі зашпільвацца на падбароддзі.



Шалом, знойдзены на тэрыторыі Прусіі. Магчыма, належаў прадстаўніку войска Вялікага княства Літоўскага падчас выправы на Грунвальд у 1410 г.



Шалом са збраёўні Радзівілаў у Нясвіжы. Напэўна, XIV—XV стст. Звязваецца з татарскай традыцыяй, але канструкцыя шлема сведчыць, што ён мог быць перароблены са стажковага шлема па ўзору баскінетаў ці бартут



Адкрыты бацынет. Рэканструкцыя клуба «Княжы Гуф»



Герб Трокскай зямлі. Малюнак пачатку XVI ст.

У XIV — XVI стст. у Вялікім княстве Літоўскім пад шаломамі разумелі адкрытыя шлемы некалькіх відаў. Як спадчына старажытнарускіх часоў тут існавалі нагалоўі сфераканічнай і цыліндрычна-канічнай форм, якія наверсе вянчаліся шпілем, часта з шарыкам — «яблыкам» ці сцяжком — «ялаўцом». Характэрныя ўзоры такіх шлемаў былі знойдзены на тэрыторыі Прусіі. Як лічаць даследчыкі, яны маглі быць згублены воінамі ВКЛ падчас паходу на Грунвальд у 1410 г.

З'яўленне ў XIV ст. у Вялікім княстве татарскіх каланістаў абумовіла выкарыстанне тут некаторых усходніх элементаў узбраення, у тым ліку татарскіх шаломаў, якія нават спецыяльна заказваліся за мяжой, у тым ліку ў такіх заходніх гарадах, як Кракаў. У той жа час тут атрымалі распаўсюджанне і шаломы заходняга тыпу, для якіх былі характэрны звоны ў выглядзе стажка ці разадзьмутага конуса. Удасканаленыя варыянты такіх нагалоўяў мелі падоўжаныя з бакоў і ззаду краі звона, якія баранілі вушы і карак. Такія шаломы называюць таксама «бацынетамі», ці «баскінетамі». Бацынеты часта фігуруюць на пячатках літоўскіх князёў канца XIV — першай паловы XV ст., а таксама ў спісах узбраення, высылаемага ў ВКЛ з Польшчы ў рамках падрыхтоўкі да рашаючага сутыкнення з Тэўтонскім ордэнам.

Шаломы заставаліся ў Вялікім княстве адным з найбольш папулярных тыпаў баявых нагалоўяў да сярэдзіны XVI ст., пасля чаго яны выходзяць з баявога ўжытку, саступаючы месца больш дасканалым шлемам.

## Прылбіцы

У XIV ст. у Вялікім княстве Літоўскім, як і ў іншых краінах Еўропы, распаўсюджваецца адзін з найбольш дасканалых тыпаў шлемаў — прылбіца. Тэрмін «прылбіца» быў запазычаны з польскай мовы і абазначаў любы шлем з рухомай часткай, якая бароніць твар. Канструкцыя, форма і памеры гэтай часткі маглі быць рознымі, але яна павінна была быць мабільнай (адхіляцца ці адчапляцца) і не складаць аднаго цэлага са звонам.

Найбольш ранімі формамі прылбіц з'яўляліся бацынеты, забяспечаныя рухомым наноснікам, найчасцей у выглядзе падоўжанага трохкутніка. Ніжні, шырокі канец наносніка мацаваўся да падбародачнай часткі барміцы, верхні ж, забяспечаны пятлёй, чапляўся за спецыяльны кручок на лобнай частцы звона. У другой палове XIV ст. з'явіліся прылбіцы з заслонай-забралам, што цалкам закрывала твар і забяспечвалася візурай і адтулінамі для дыхання. Першапачатковая заслона, адкідаемая на звон, мацавалася на адной лобнай завесе, у далейшым пачалі выкарыстоўвацца два скроневыя шарніры. Шар-



Прылбіца «псіная пыса» з лобнай завесай. Германія, каля 1400—1410 гг.



Прылбіца «псіная пыса» з заслонай на лобнай завесе. Германія, канец XIV — пачатак XV ст.

нірная заслона магла мець дадатковыя шплінтаваныя завесы, што дазваляла цалкам здымаць яе. У мэтах павышэння трываласці заслона набывала выцягнутыя абрысы, дзякуючы якім такі шлем атрымаў назву «псіная пыса» (ад ням. *Hundsgugel*).

«Псіныя пысы» неаднаразова фіксуюцца на пячатках літоўскіх князёў, а таксама ў пісьмовых крыніцах, дзе апісваецца забеспячэнне зброяй ваяроў ВКЛ у канцы XIV — першай палове XV ст. Вялікая функцыянальнасць прылбіц на аснове бацынетаў абумовіла даволі позняе іх бытаванне; заходнія выяўленчыя крыніцы фіксуюць такія шлемы яшчэ ў канцы XV і нават на пачатку XVI ст., а ў арсеналах феадалаў Вялікага княства яны маглі захоўвацца нават у канцы XVI ст.

Каля 1420 г. у Італіі была сканструявана прылбіца малодшага тыпу — «армэ», ці «армет» (ад англ. *armet*). Шлем выдатна ахоўваў галаву і быў вельмі зручным дзякуючы даданню да акруглага, шчыльна



«Псіная пыса». Рэканструкцыя клуба «Княжы Гуф»



Выявы вершнікаў з пячатак літоўскіх князёў



Дзіцячы даспех вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста з прылбіцай «армэ»



Прылбіца «армэ» ў максімільянаўскім стылі. Рэканструкцыя клуба «Княжы Гуф»

прылягаўшага да галавы звона паўкруглых бакавых пласцін—«шчок». «Шчокі» расчыняліся ўбакі на завесах і замыкаліся на падбароддзі пры дапамозе металічнай кнопкі ці кручка. Заслона ў выглядзе кароткай дзюбы, забяспечаная візурай і вентыляцыйнымі адтулінамі, мацавалася на скроневых шарнірах.

На працягу XVI ст. прылбіца малодшага тыпу зазнала шэраг мадыфікацый. Побач з традыцыйнай «армэ» часцей выкарыстоўваюцца прылбіцы, у якіх на месца пары «шчок» заступае цэльны заслонападобны падбароднік, прымацаваны за звона на агульных з заслонай бакавых шарнірах. Замыканне падобных шлемаў на галаве ажыццяўлялася не на падбароддзі, а па абодвух баках шыі. Падбароднікі некаторых прылбіц сталі дапаўняцца металічнымі каўнярамі-абойчыкамі, прымацаванымі на стала, што ліквідавала шчыліны ў раёне горла і практычна ператварала шлем у адно цэлае з даспехам. Прылбіцы без прымацаванага каўняра былі, у сваю чаргу, сканструяваны такім чынам, што напускаліся на абойчык даспеха і ахоплівалі сваім жолабападобным краем спецыяльны адагнуты борцік, размешчаны па ягоным гарлавым зрэзе. Заслона, першапачаткова аформленая ў выглядзе вераб'інай дзюбы, набывае форму кавальскіх мяхоў альбо скругленай малпавай морды, а пасля 1540 г. — зноў дзюбы, аднак падзеленай на дзве часткі, верхнюю і ніжнюю, што зрабіла яе яшчэ больш мабільнай.



Пяхота Вялікага княства Літоўскага на маршы (з карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай»). 1530—1535 гг.

У XVI ст. у Вялікім княстве Літоўскім ужываліся ўсе мадыфікацыі «армэ», пашыраныя ў тагачаснай Еўропе. Да сярэдзіны гэтага стагоддзя прылбіцы ператвараюцца тут у самы папулярны від шлемаў, выкарыстоўваемы і ў камплекце з усімі відамі даспехаў, і ўвогуле як адзіны від засцерагальнага ўзбраення. У мэтах аблягчэння «армэ» з іх часам здымаліся заслона і нават «шчокі», і ў выніку атрымоўвалася нагалоўе, набліжанае па сваіх баявых якасцях да шалома. Акрамя таго, пад прылбіцамі часам разумеліся шлемы, у якіх функцыю па ахове твару выконвала кальчужнае пляценне. Падобныя прылбіцы, вядомыя таксама як «місюркі», найбольш актыўна выкарыстоўваліся лёгкаўзброенымі кавалерыстамі, схільнымі да запазычання ўсходняга ўзбраення.



2 Зак. 2302

# Капаліны і салады



Даспех пехацінца ў камплекце з капалінам. Кіраса капійнічая з адтулінамі для мацавання апорнага крука. Германія, XV ст.



Салада. Другая палова XV—пачатак XVI ст. Выпадковая знаходка ў Мсціславе

Пачынаючы з другой паловы XIV ст. у Вялікім княстве Літоўскім можна заўважыць выкарыстанне т. зв. капалінаў, якія былі пашыраны ў Еўропе з XII ст. і атрымалі сваю назву з-за падабенства да металічнага капелюша. Яны з'яўляліся пераважна адкрытым шлемам і ў гэтым набліжаліся да шаломаў, аднак іх канструкцыйную адметнасць складалі больш ці менш шырокія палі, часам апушчаныя ўніз. У шэрагу выпадкаў палі апускаліся так нізка, што засланялі верхнюю частку твару; у такіх выпадках яны праразаліся зрокавай шчылінай — «візурай», што ператварала капалін у паўзакрыты шлем, а пры даданні накладнога падбародніка — «барта» — у цалкам закрыты.

Капаліны ўпершыню фіксуюцца на літоўскіх пячатках 1379 г. Яны ўяўляюць сабой конусападобныя шлемы з «яблыкам» на вастрыі і не-



Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу. Канец XV ст.



Салада для турнірных сутычак на вострых коп'ях (*Rennen*) з даспешнага гарнітура Мікалая Радзівіла Чорнага. Нюрнбергскі платнер Кунц Лохнер. Каля 1550 г.



Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу. Канец XV ст.

шырокімі палямі. Больш тыповую форму маюць капаліны, прадстаўленыя на мініяцюрах Радзівілаўскага летапісу. Тут фіксуюцца капаліны двух відаў — са сфераканічным звонам з «яблыкам» на невысокім шпілі і са звонам сферычнай формы. Абодва варыянты капалінаў маюць шырокія прыапушчаныя палі, што робіць шлемы глыбейшымі. Такія нагалоўі шырока ўжываліся ў XIV—XVI стст. ва ўсёй Еўропе.

Яшчэ ў першай палове XVI ст. капаліны заставаліся вельмі папулярным відам шлемаў, але ў далейшым

яны паступова губляюць сваю актуальнасць, хаця ў некаторых відах пяхоты і кавалерыі значным попытам карысталіся генетычна звязаныя з імі марыёны.

Канструкцыйна да капалінаў набліжаўся такі від шлемаў, як салады, хаця яны ўзніклі ў выніку эвалюцыі шалома-баскінета. Салада, якая з'яўляецца італьянскім вынаходніцтвам, упершыню ўзгадваецца ў 1407 г. У Цэнтральнай Еўропе ў сярэдзіне XV ст. была сфарміравана т. зв. нямецкая салада, якая характарызавалася глыбокім, прарэзаным візурай звонам, прыкрываўшым верхнюю частку твару, і доўгім напатылічнікам. У камплекце з падобнымі шлемамі шырока выкарыстоўваліся накладныя падбароднікі — «барты». Нямецкія салады маглі быць як глухімі, так і з рухомай заслонай. У якасці баявога шлема салады былі пашыраны ў Еўропе ў XV — першай палове XVI ст.

У Вялікім княстве Літоўскім салады выкарыстоўваліся, што найменей, з канца XV ст. Найбольшую каштоўнасць уяўляюць арыгінальныя шлемы, адзін з якіх быў знойдзены ў Мсціславе і датуецца, верагодна, 70—80-мі гг. XV ст. У Парыжскім артылерыйскім музеі знаходзіцца салада, якая належала да гарнітура Мікалая Радзівіла Чорнага, вырабленага каля 1555 г. вядомым нюрнбергскім даспешнікам Кунцам Лохнерам. Салада належала да турнірных і прызначалася для спецыяльнага саксонскага паядынку праз плот. У канцы XV — першай палове XVI ст. салады былі досыць папулярныя ў ВКЛ, прычым яны маглі забяспечвацца заслонамі, аналагічнымі тым, якія былі характэрны для тагачасных прылбіц «армэ».

## Штурмгабы і шышакі

У сучаснай еўрапейскай зброязнаўчай навуцы лічыцца, што ў аснове генезісу штурмгаба (ад ням. *Sturmhaube*) ляжала салада. Аднак не выключана, што на кшталтаванне такіх шлемаў аказала таксама ўплыў «армэ». Аснову штурмгаба складаў глыбокі звон з рухомым альбо нерухомым брылькам, найчасцей з грэбнем і з рухомымі «шчокамі» ці падбароднікам на шарнірах. Ахова патыліцы і шыі ажыццяўлялася як пры дапамозе выцягнутай тыльнай часткі звона, так і праз даданне фальгавага напатылічніка. Як правіла, штурмгабы выступалі ў якасці адкрытага шлема, аднак ужываліся таксама экземпляры з аховай твару ў выглядзе маскападобнай заслоны альбо разбудаванага падбародніка — «барта» з візурай. У другой палове XVI ст. бывалі таксама штурмгабы з рухомым наноснікам — «стрэлкай», прапушчанай праз адтуліну ў брыльку.

На землях Вялікага княства Літоўскага штурмгабы ўжываліся з сярэдзіны XVI ст., хаця спарадычна яны маглі выкарыстоўвацца і раней.

Вялікая колькасць штурмгабаў мелася ў распараджэнні асобных магнатаў і заможнай шляхты. Сярод амуніцыі, высланай у 1569 г. з Нясвіжа да Чарнаўчыц, такія шлемы з'яўляліся найбольш масавымі, прычым тут былі прадстаўлены штурмгабы «для пешага люду», штурмгабы з «насамі для коннага люду», штурмгаб закрыты і штурмгабы з «бартам», г.зн. усе віды штурмгабаў, вядомыя і тагачаснай Еўропе.



Шышак са збораў Тышкевічаў у Лагойску. Паўднёвая Германія, сярэдзіна XVI ст.



Даспех Мікалая Радзівіла Чорнага ў камплекце з адкрытым штурмгабам. Нюрнбергскі платнер Кунц Лохнер. Каля 1550 г.



Шышак венгерскага тыпу Мікалая Радзівіла Чорнага. Паўднёвая Германія, 1561 г.



«Шчака» шышака венгерскага тыпу. Другая палова XVI ст., з раскопак у Мінску

Адначасова са штурмгабамі ў Вялікім княстве Літоўскім ішло шпаркае распаўсюджанне канструкцыйна блізкіх да іх шышакоў. Яны ўяўлялі сабой адкрытыя нагалоўі, што складаліся са звона з прынітаваным нерухомым брыльком, праз які прапускаўся прыкручаны да лобнай часткі шлема наноснік, «шчок» і фольгавага напатылічніка. Усходняе (праўдападобна — турэцкае) паходжанне шышакоў абумовіла іх тыпова арыентальныя абрысы. Тым не менш шышакі ў XVI ст. прадукаваліся і ў цэнтральнаеўрапейскіх краінах, у тым ліку ў Германіі. У другой палове гэтага стагоддзя шышакі набылі такую папулярнасць у ВКЛ, што выйшлі на другое месца пасля прылбіц, а неўзабаве сталі неад'емным атрыбутам найбольш аўтарытэтнага віду кавалерыі Рэчы Паспалітай — гусараў.

# Баявыя пакрыцці тулава

## Пласцінкавы даспех



начнай папулярнасцю ў Вялікім княстве Літоўскім, асабліва да канца XV ст., карысталіся даспехі, набраныя з невялікіх металічных пласцінак. Найбольш старажытнымі з'яўляюцца даспехі «раменнага мацавання», у якіх адносна невялікія падоўжаныя пласцінкі звязваліся паміж сабой пры дапамозе раменьчыкаў. Падобную сістэму наборнага пласцінкавага даспеха прынята таксама называць лямелярнай. Характэрнай рысай лямелярнага даспеха з'яўляецца вертыкальнае размяшчэнне пласцінак, набраных у даволі шырокія палосы, якія злучаліся адна з адной гарызантальнымі радамі, прычым і пласцінкі ў складзе палос, і самі палосы ў складзе гатовага даспеха заходзілі сваімі краямі адна на адну. У ВКЛ лямелярныя даспехі маглі выкарыстоўвацца прынамсі яшчэ ў канцы XIV ст., хаця сведчанні аб іх надзвычай абмежаваныя.

Большае распаўсюджанне атрымалі даспехі, у якіх пласцінкі не звязваліся паміж сабой, а мацаваліся да скуранай ці тэкстыльнай асновы з унутранага альбо, радзей, знешняга боку. Даспехі з пласцінкамі, схаванымі пад асновай, прынята называць «платамі». Па меры эвалюцыі платаў пласцінкі ў іх памяншаліся. У выніку ў XV — XVI стст. сфарміраваўся спецыфічны від эластычнага даспеха — брыгандына. У ВКЛ былі вядомыя два віды брыгандын. Тыя з іх, у якіх пласцінкі размяшчаліся па прынцыпу



Элементы пласцінкавага даспеха



Узоры еўрапейскіх платаў



Бехцер. Рэч Паспалітая, 1580 г.



Брыгандына са збраёўні вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста. Італія, сярэдзіна XVI ст.



Лямелярны даспех XIV ст., знойдзены на месцы бітвы пры Вісбі (Готланд) у 1361 г.

лускі, называліся «карацэна». Экземпляры, у якіх пласцінкі аб'ядноўваліся ў доўгія вертыкальныя рады, мелі назву «крыты бехцер».

Акрамя крытых бехцераў у Вялікім княстве Літоўскім у XVI ст. ужываліся і класічныя віды бехцераў, распаўсюджаныя на Усходзе. У такіх даспехах пласцінкі, таксама набраныя ў доўгія вертыкальныя рады, злучаліся не пры дапамозе асновы, а кальчужнымі перамычкамі. Паверхня ж заставалася непакрытай, што стварала магчымасць для аздаблення саміх пласцінак. Аналагічная канструкцыя вы-



Накаленкі маскоўскія



Зярцала маскоўскія. 1616 г.

карыстоўвалася на Усходзе і пры вырабе пакрыцця канечнасцей. У крайне рэдкіх выпадках яны фіксуюцца ў дакументах Вялікага княства Літоўскага як «накаленкі маскоўскія». Бехцеры ўсходняга тыпу траплялі сюды ў якасці трафеяў, закупляліся альбо прадукаваліся на месцы па замежных узорах. Спадчынна выкарыстоўваўся тут і такі від усходняга даспеха, як зярцала. Аснову яго складалі дзве буйныя пласціны, што прыкрывалі грудзі і спіну. Да гэтых пласцін пры дапамозе кальчужных перамычак альбо раменьчыкаў мацаваліся пласцінкі меншага памеру, якія ахоплівалі бакі, а часам і плечы ваяра.



Зярцала. Усход, XVI ст.

## Пласцінавы даспех

У XIV ст. у Еўропе быў сканструяваны даспех з буйных металічных пласцін, які вызначаўся максімальнай надзейнасцю аховы ад паражаючых сродкаў праціўніка і адначасова зручнасцю ў эксплуатацыі. У адрозненне ад даспехаў, якія набіраліся з невялікіх пласцінак і вызначаліся адноснай эластычнасцю, такія даспехі называюць пласцінавымі ці, праўда не зусім трапна, цэльнакаванымі.

Жорсткая кіраса, што з'яўлялася галоўным элементам пласцінавага даспеха, была сканструявана ў сярэдзіне XIV ст. Аснову яе складаў цэльнакаваны альбо нерухома знітаваны з некалькіх частак нагруднік, дапоўнены такім жа самым чынам скроеным наспіннікам. Знізу да кірасы мацавалася металічная спаднічка, набраная з абручападобных пласцін, якія сваімі краямі находзілі адна на адну і прыкрывалі ніжнюю частку жывата і часткова бёдры ваяра. Першапачаткова ўся канструкцыя нітавалася, як і ў платах, з унутранага боку да моцнай тканіны ці скуры, што дазваляе называць яе «крытай кірасай». У далейшым тэкстыльнае альбо скураное пакрыццё пачало выходзіць з ужытку (найбольш інтэнсіўна пасля 1410 г.), наступіў век «белага», г. зн. паліраванага, даспеха.



Крытая кіраса. Канец XIV ст.

У складзе поўнага даспеха кіраса выступала ў камплекце з аховай канечнасцей. Ахова ног складалася з набедранікаў, накаленнікаў,



Ранні пласцінавы даспех у камплекце з прылбіцай «псіная пыса». Паўночная Італія, канец XIV ст.



Пласцінавая ахова ног. Рэканструкцыя клуба «Княжы Гуф»



Металічныя рукавіцы перыяду другой паловы XIV — першай паловы XV ст. Рэканструкцыя клуба «Княжы Гуф»



Пласцінавая ахова рук. Рэканструкцыя клуба «Княжы Гуф»



Рукавіцы гатычнага даспеха. Рэканструкцыя клуба «Княжы Гуф»

нагалёначнікаў і фольгавых чаравікаў, прычым нагалёначнікі, а часам і набедранікі, мелі выгляд двухчасткавых труб, якія расчыняліся на завесах і зашпільвалася пры дапамозе спражак. Трубчастая канструкцыя ляжала таксама ў аснове поўнай аховы рук, складалася з наплечніка, верхняй трубы, налакотніка і ніжняй трубы, прыкрываўшай руку ад локця да кісці. Асобны элемент аховы рук складалі металічныя рукавіцы, як правіла, з раздзельнымі пальцамі. З першай паловы XV ст. ужываліся таксама рукавіцы, у якіх асобнае ад усёй кісці пакрыццё меў толькі вялікі палец. Для дадатковай аховы ног у XV ст. з'явіліся спецыяльныя шчыткі — «ташкі», якія прышпільваліся да ніжняга краю спаднічкі. Для ахо-



Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу. Канец XV ст.



Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу. Канец XV ст.



Дзіцячы даспех вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста

вы шыі ўжываўся спецыяльны металічны каўнер — «абойчык». Выкарыстанне цяжкіх коп'яў прывяло да з'яўлення на правым баку кірасы спецыяльнага апорнага крука, на які падчас атакі апіралася дрэўка.

Пранікненне поўнага пласцінавага даспеха на землі ВКЛ можна заўважыць ужо ў канцы XIV ст. Найперш яно закранула прадстаўнікоў палітычнай эліты дзяржавы. Аднак у рамках падрыхтоўкі да вайны з крыжакамі ў Вялікае княства з Польшчы завозілася значная колькасць такіх даспехаў ці іх элементаў для шэрагавага рыцарства. Як сведчаць выявы на пячатках літоўскіх князёў, яны характарызаваліся тыповымі для канца XIV — пачат-

ку XV ст. рысамі. Рукавіцы мелі кароткія і шырокія манжэты, кірасы вызначаліся акруглымі абрысамі, а ахова канечнасцей — доўгімі завостранымі наскамі чаравікаў.

Да канца XV ст. пласцінавы даспех, альбо, як яго называлі ў Вялікім княстве Літоўскім, «зброя бляхавая», здолеў адцясніць на другі план пласцінкавыя віды даспеха. У гэты час развіццё ваенна-тэхнічнай думкі ў Еўропе вызначалася існаваннем двух вядучых прадукцыйных цэнтраў — Паўночнай Італіі (Мілан) і Паўднёвай Германіі (Аўгсбург, Нюрнберг і Інсбрук). На землях Вялікага княства Літоўскага большае распаўсюджанне атрымаў т.зв. гатычны даспех, сканструяваны ў паўднёванямецкіх майстэрнях у другой палове XV ст. Яго аснову складала кіраса, нагруднік і наспіннік якой былі з дзвюх частак, прычым ніжняя частка заходзіла сваімі краямі на верхнюю. Сваю назву гатычны даспех атрымаў з-за спічастых абрысаў і вострых форм, падкрэсленых прафіляванымі краямі пласцін і жалобчатым арнаментам на паверхні. Гэта надавала яму агрэсіўны выгляд і адрознівала ад італьянскіх даспехаў, якім былі ўласцівы больш згладжаныя, лагодныя контуры, навеяныя рэнесансавымі матывамі. Істотную адметнасць гатычнага даспеха складала яго адносная сіметрычнасць, тады як італьянскія «зброі» вызначаліся масіўнейшымі элементамі, у прыватнасці наплечнікамі і налакотнікамі, пакрываўшымі левы бок цела. У камплекце з гатычнымі даспехамі ўжываліся капаліні і салады. Ужо ў XV ст. у Вялікім княстве Літоўскім сустракалася два варыянты пласцінавага даспеха — капійнічы, які пакрываў рыцара з ног да галавы, і стрэльчы. Апошні прызначаўся для больш лёгкіх стралкоў, уяўляў сабой паўдаспех і вызначаўся адсутнасцю пакрыцця ног, а часам і рук.



Даспех Мікалая Радзівіла Рудога. Належыць да катэгорыі паўдаспехаў ці трохчвэрцевых даспехаў. На гэта паказвае адсутнасць апорнага крука на кірасе і аблегчаныя наплечнікі. Італія, 1545—1551 гг.

У XVI ст. развіццё пласцінавага даспеха ў Вялікім княстве Літоўскім, як і ў цэлым у Еўропе, выходзіць на якасна новы этап. Гэта выявілася ў павелічэнні колькасці яго тыпаў, пошуку найбольш эфектыўных форм і канструкцый. Капійнічыя даспехі падзяляліся на цяжкія і лёгкія і адрозніваліся формай наплечнікаў і характарам аховы ног. У цяжкіх даспехах выкарыстоўваліся



Гатычны даспех. Рэканструкцыя клуба «Княжы Гуф»



Трохчвэрцевы даспех. Рэканструкцыя клуба «Княжы Гуф»



3 Зак. 2302



Даспех тыпу "*Fulmen Belli*" Крыштофа I Мікалая Радзівіла Перуна. Італія, каля 1600 г.



«Максімільянаўскі» даспех на рыцара і каня са збраеўні Радзівілаў у Нясвіжы. Германія, першая чвэрць XVI ст.



Нагруднік «касцюміраванага» даспеха са збраеўні Радзівілаў у Нясвіжы. Германія, каля 1510—1525 гг.

масіўныя наплечнікі з высокімі вертыкальнымі грэбнямі, што складалі дадатковую ахову шыі. У лёгкіх экземплярах наплечнікі былі вузейшымі і лягчэйшымі, без грэбняў, дапоўненыя акруглымі шчыткамі. Лёгкія даспехі камплектаваліся таксама аблегчанай аховай ног. Ташкі адсутнічалі, і набедранікі мацаваліся непасрэдна да спаднічкі. Лёгкі капійнічы даспех, дапоўнены ташкамі замест доўгіх набедранікаў, ляжаў у аснове розных мадыфікацый паўдаспеха. Адной з яго разнавіднасцей быў «ландскнехтаўскі» даспех, які складаўся з кірасы, спаднічкі, ташак, абойчыка і вузкіх наплечнікаў, што ахоўвалі толькі верхнюю частку рукі. Бытаваў яшчэ т. зв. трохчвэрцевы даспех, аналагічны лёгкаму капійнічаму, але без апорнага крука, нагалёначнікаў і чаравікаў.

Арыгінальным відам паўдаспехаў з'явіўся даспех тыпу «*anima*», які быў сканструяваны ў Італіі каля 1530 г. і складаўся цалкам з жалезных палос-фольгаў, што заходзілі адна на адну знізу ўверх і злучаліся рамянямі ці рухомымі нітамі. На аснове такога даспеха сфарміраваўся, першапачаткова ў Венгрыі, спецыфічны гусарскі даспех, асаблівасцю якога было спалучэнне пласцінавай аховы торса з кальчужнымі рукавамі, а часам і падолам (нярэдка пад кірасу папросту апраналася кальчуга).

Апроч спецыяльных тыпаў даспехаў шырокае распаўсюджанне ў XVI ст. атрымалі, прынамсі сярод заможных феадалаў, даспешныя гарнітуры, пад якімі сучасныя зброязнаўцы разумеюць сукупнасць аднолькава выкананых і аздобленых частак, з якіх можна скласці розныя тыпы даспехаў. Гарнітуры маглі налічваць па некалькі дзесяткаў элементаў, прызначаных для даспехаў як баявога, так і турнірнага характару.

Важным крытэрыем эвалюцыі еўрапейскага даспеха XVI ст. з'яўлялася яго стылёвае вырашэнне, якое абумоўлівалася і эстэтычнымі, і практычнымі патрэбамі. На пачатку стагоддзя шырокае распаўсюджанне атрымала рыфленне паверхні даспехаў (акрамя нагалёначнікаў), што спрыяла павышэнню іх удараадпорнасці без павелічэння вагі. Стварэнне новага стылю звязваюць з імем германскага імператара Максімільяна I, таму сам даспех атрымаў назву «максімільянаўскага». «Максімільянаўскі» даспех характарызаваўся таксама рэнесансавымі абрысамі, больш адпавядаючымі натуральным формам цела. Замест доўгіх гатычных чаравікаў ён забяспечваўся чаравікамі з надзвычай шырокімі насамі. Дастаткова функцыянальны і эстэтычны, падобны даспех ужываўся ў Вялікім княстве Літоўскім, што найменей, да сярэдзіны XVI ст.

Акрамя функцыянальных патрабаванняў на ўзнікненне «максімільянаўскага» даспеха аказалі ўплыў і павевы моды. Яшчэ больш яскрава праявіліся яны ў з'яўленні «касцюміраваных» даспехаў, якія капіравалі цывільныя рэнесансавыя строі. У якасці ўзораў такіх даспехаў служаць элементы двух кам-



Фрагмент карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай». 1530—1535 гг.

плектаў нясвіжскага арсенала. Першы з іх, выраблены ў Германіі ў 1510 — 1525 гг., уяўляе сабой нагруднік з прымацаваным да яго васьміфольгавым фартухом. Нагруднік аздоблены нерэгулярным рыфленнем з раслінным арнаментам, змешчаным у сярэдзіне вузкіх жалабкоў. На гладкіх паверхнях, падзеленых жалабкамі, месцамі імітуюцца разрэзы, характэрныя для тагачаснай «ландскнехтаўскай» моды. Яшчэ больш пышным з'яўляўся выраблены ў 1525—1530 гг. аўгсбургскім платнерам Кольманам Гельмшмітам даспешны гарнітур Юрыя Радзівіла (даспех для пешага бою плюс паўдаспех), асобныя часткі якога знаходзяцца зараз у нью-йоркскім Метраполітэн-музеі. Спецыфічнай рысай даспеха з'яўляецца поўная ахова рук у выглядзе аб'ёмных рукавоў з буфамі, сканструяваных такім чынам, каб не пакідаць ніякіх шчылін і лакун.

Пасля выхаду з ужытку рыфлёнага «максімільянаўскага» даспеха на першае месца зноў выходзяць гладкія паверхні, і далейшая эвалюцыя «зброі бляхавай» праяўляецца ў асноўным у змяненні формы нагрудніка і чаравікаў. Апошнія ўсё больш звужаюцца, аж пакуль у 60-х гг. XVI ст. не набываюць натуральную форму нагі. У развіцці нагруднікаў да сярэдзіны стагоддзя пазначылася тэндэнцыя выцягвання іх цэнтральнай часткі ў своеасаблівае завостранне — «тапуль» (ад італ. *tарро* — бугор), якое спрыяла рыкашэтаванню наступальнай зброі праціўніка. Асабліва вялікая ўвага надавалася тапулю ў «ландскнехтаўскіх» паўдаспехах. У другой палове стагоддзя тапуль пачаў апускацца ўніз і ў 70-я г. XVI ст. набыў форму абвіслай гусінай гузкі.



«Касцюміраваны» даспех для пешага бою Юрыя Радзівіла Геркулеса. Аўгсбургскі платнер Кольман Гельмшміт. Каля 1530 г.



Паўдаспех Мікалая Радзівіла Сіроткі. Францыя, 1573—1574 гг.



Нагруднік кірасы. Першая палова XVI ст. Зборы гістарычна-этнаграфічнага музея Літвы



Даспех з кальчужнымі рукавамі і прылбіцай «армэ». Работа Валянціна Себенбюргера, у 1559—1561 гг. — надворнага платнера вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста ў Вільні

Паралельна з даспехам, у поўным сэнсе гэтага слова, да сярэдзіны XVI ст. даволі шырока ў якасці самастойнай аховы тулава выкарыстоўвалася кіраса («бляхі», «пляхі») ці нават толькі адзін нагруднік. У другой палове XVI ст. кірасы як самастойная ахова тулава губляюць сваю папулярнасць.

Апроч «блях» у дакументах XVI ст. фігуруюць і іншыя часткі пласцінавага даспеха, найперш тыя элементы, якія прыкрывалі канечнасці. Для пазначэння аховы ног выкарыстоўваўся тэрмін «накаленкі», тады як ахова рук, фіксуемая ў другой палове XV — пачатку XVI ст. як «мышкі», абазначалася некалькімі тэрмінамі — наручы, зарукаўі, рукавы, а таксама рознымі варыянтамі нямецкага тэрміну «*Armzeug*». Не ва ўсіх выпадках гэта былі тыповыя пласцінавыя пакрыцці рук. Тэрмін «зарукаўі» найчасцей абазначаў кальчужныя рукавы, а пад «наручамі» часам разумелі ўсходні элемент у выглядзе вялікай пласціны, якая бараніла знешні бок прадплечча і локаць. З унутранага боку ля кісці да яе мацаваліся на завесах ці пры дапамозе кальчужных перамычак больш кароткія пласціны, што зашпільваліся на спражкі альбо завязваліся матузкамі. З 60-х гг. XVI ст. падобны засцерагальны элемент фігуруе ўжо як «карвашы». Акрамя ўсходніх наручаў зрэдку выкарыстоўваліся і арыентальныя пакрыцці ног у выглядзе «накаленкаў маскоўскіх», якія выраблялiся па

прынцыпу бехцера, і «батарлыкі маскоўскія». «Батарлыкі» (бутурлыкі) з'яўляліся пашыраным на Усходзе варыянтам нагалёначнікаў, якія пакрывалі нагу ад калена да ступні і складаліся з металічных вертыкальных палос (звычайна трох), выробленых па форме нагі і злучаных кальчужнымі перамычкамі. Зашпільваліся бутурлыкі пры дапамозе спражак альбо завязак.

Важнай часткай аховы рук з'яўляліся рукавіцы. У Вялікім княстве ў XVI ст. выкарыстоўвалася некалькі відаў рукавіц — з падзелам на пальцы і без яго, а таксама «руквіцы панцэровыя», у якіх бляхавая аснова спалучалася з кальчужнай аховай пальцаў.



Карвашы турэцка-татарскія. XVI ст.



Металічныя рукавіцы. Рэканструкцыя клуба «Княжы Гуф»



Наплечнік для вольнага турніру з даспешнага гарнітура Мікалая Радзівіла Чорнага. Нюрнбергскі платнер Кунц Лохнер. Каля 1550 г.



Металічныя рукавіцы. Рэканструкцыя клуба «Княжы Гуф»

Асобную групу «зброі бляхавай» складалі турнірныя даспехі. Заключэнне Крэўскай уніі з Польшчай у 1385 г. абумовіла далучэнне феадалаў Вялікага княства Літоўскага да багатых турнірных традыцый свайго заходняга суседа. Аб найбольшым росквіце турнірнага рыштунку ў Вялікім княстве можна гаварыць прымяняльна да XVI ст. Шматлікія крыніцы сведчаць, што пры дварах каралёў польскіх і вялікіх князёў літоўскіх, а таксама пры дварах асобных магнатаў праводзіліся ўсе віды турнірных практыкаванняў, вядомых у тагачаснай Еўропе. Сярод іх — конныя турніры, нямецкія і гусарскія, пешыя турніры, фехтавальныя паядынкі (т. зв. пешы бой), турнірныя сутычкі на тупых і вострых коп'ях (ганітвы), ганітвы за кальцом і г.д. Некаторыя віды рыцарскіх забаў дапускалі выкарыстанне звычайнага рыцарскага ўзбраення, тады як іншыя патрабавалі спецыяльнага турнірнага рыштунку.

Баявыя даспехі былі прыдатныя для ўдзелу ў турнірах, альбо «вольных» турнірах, якія ўяўлялі сабой групавыя сутычкі на коп'ях, пасля чаго змаганне працягвалася на мячах. Пешыя турніры прадугледжвалі аналагічныя прынцыпы (групавы характар, дзве фазы правядзення — змаганне на коп'ях і на мячах) і ўзбраенне (баявы пласцінавы даспех), аднак бойка праводзілася праз бар'ер, і таму ахова ног магла адсутнічаць. Для дасягнення максімальнай бяспекі падчас капійнічай фазы турніру маглі выкарыстоўвацца



Даспех для турнірнай сутычкі на тупых коп'ях (*Gestech*). Работа Валянціна Себенбюргера, у 1559—1561 гг. — надворнага платнера вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста ў Вільні

толькі дадатковыя ўзмацняльныя элементы — кірасы, падбароднікі, шчыты, левыя налакотнікі і наплечнікі.

Спецыфічныя патрабаванні да турнірнага рыштунку ў найбольшай ступені праявіліся пры правядзенні турнірных сутычак на тупых і вострых коп'ях. Для сутычак на тупых коп'ях (ад ням. *Gestech*) прызначаліся «зброі колчыя» (ад ням. *stechen* — калоць). Яны ўяўлялі сабой паўдаспех спецыяльнай канструкцыі, аснову якога складалі асіметрычная кіраса, выпуклая злева і сплошчаная справа, дзе да яе мацаваўся апорны крук і кранштэйн для фіксацыі задняй часткі кап'я. Да кірасы мацаваўся глухі шлем, прыплюснуты ў цемяннoй частцы і з вертыкальнымі сценкамі, якія плаўна адгіналіся вонкі, утвараючы на ўзроўні вачэй рабрысты перaлом, спераду раскрыты ў зрокавую шчыліну. Дзякуючы свайму падабенству з галавой вядомага земнаводнага, шлем атрымаў назву «жабінай морды». Даспех дапаўняўся таксама асіметрычнай аховай рук з адносна лёгкімі наплечнікамі і акруглымі падпахавымі шчыткамі і спаднічкай з ташкамі. Паверсе «зброі колчай» звычайна апраналася дэкаратыўная тэкстыльная спадніца.

Для турніру на вострых коп'ях (ад ням. *Rennen*), што ўяўляў сабой серыю атак з заменай коп'яў «на хаду», выкарыстоўваўся т.зв. гончы даспех (ад ням. *Rennzeug*). «Зброя гончая» запазычыла сваю форму ад гатычнага даспеха XV ст. Аснову яе складала кіраса з прымацаваным апорным круком і кранштэйнам. Наспіннік меў глыбокія вырaзы па баках, ля шыі і паясніцы і нагадваў літару X. Да нагрудніка мацаваўся падбароднік—«барт», які ахоўваў ніз твару і спалучаўся з глухой саладай. Ахова рук адсутнічала, у той час як ногі бараніліся фартухом з падоўжанымі ташкамі. Левы бок даспеха дадаткова ўзмацняўся спецыяльным тарчам. Ён вырабляўся з абцягнутага цялячай скурай дрэва і паўтараў абрысы грудзей і левага пляча вершніка, заходзячы сваім верхнім краем на ніжнюю частку твару.

Прамежкавае ў функцыянальным плане становішча паміж баявымі і турнірнымі даспехамі займалі даспешныя гарнітуры, якія дазвалялі манціраваць зброю розных тыпаў, у тым ліку і турнірную. Сярод падобных гарнітураў, у вялікай колькасці прадстаўленых калісьці ў арсенале Нясвіжскага замка, найперш можна выдзеліць два. Яны належалі выдатным прадстаўнікам славутага роду і да таго ж былі выраблены не менш славутымі даспешнікамі, працаваўшымі для вядучых двароў Еўропы. Юрыю Радзівілу Геркулесу належаў гарнітур, выраблены каля 1530 г. аўгсбургскім даспешнікам Кольманам Гельмшмітам. На яго аснове можна было сабраць паўдаспех і даспех для пешага бою (паядынку). Апошні патрабаваў максімальна поўнага пакрыцця цела, па магчымасці без ніякіх шчылін і лакун, куды магла б патрапіць наступальная зброя праціўніка. Гэтым тлумачыцца спецыфічная канструкцыя радзівілаўскага даспеха, для якога характэрна адмысловая сістэма сачлянення.

Другі гарнітур належаў Мікалаю Радзівілу Чорнаму і быў выраблены нюрнбергскім даспешнікам Кунцам Лохнерам каля 1550 г. Ён дазваляў сабраць чатыры віды даспеха, у тым ліку для вольнага турніру і для сутыкнення на вострых коп'ях.

Распаўсюджанасць спецыяльнага турнірнага рыштунку была абмежавана вузкім колам буйнейшых магнатаў. Асноўная ж маса феадалаў магла, пры жаданні, прыняць удзел у турнірах, не патрабаваўшых дарагой спецыяльнай амуніцыі, альбо скарыстаць яе з запасаў арганізатараў такіх мерапрыемстваў.

## Кальчужны і неметалічны даспех

Даспех, сплецены з невялікіх металічных колкаў і больш вядомы як кальчуга, быў у часы сярэднявечча адной з найбольш папулярных форм аховы цела. Сплеценая такім чынам, што кожнае колка злучалася з чатырма суседнімі, кальчуга валодала ідэальнай эластычнасцю і дастатковай трываласцю. На землях Вялікага княства Літоўскага кальчужны даспех быў вядомы пад назвай «панцыр» (ад ням. *Panzer*),


Кальчужны панцыр. Маскоўская дзяржава, сярэдзіна XVI ст.


Кальчужны панцыр. Зборы Гісторыка-этнаграфічнага музея Літвы


Кальчужны панцыр. Зборы Гісторыка-этнаграфічнага музея Літвы

радзей — пад лацінскім тэрмінам «*lorica*». У XIV — XV стст. тут бытавалі тры віды кальчужнага даспеха: даўжынёй да пояса і з кароткімі рукавамі, да сярэдзіны сцягна і з доўгімі рукавамі, а таксама поўная ахова цела з кальчужнымі нагавіцамі.

З 20-х гг. XVI ст. панцыр выступае ў якасці асноўнага віду даспехаў. «Панцер, прылбіца, меч або корд, ... павеза» вызначаліся каралеўскай і соймавай уставай 1528 г., а таксама земскай ухвалай і Статутам 1529 г. як статутны мінімум ва ўзбраенні ўсіх апалчэнцаў паспалітага рушэння ВКЛ. І хаця на практыцы многія ваяры, асабліва заможныя, аддавалі перавагу касцюму з металічных пласцін, папулярнасць кальчужнага даспеха на працягу ўсяго XVI ст. заставалася вельмі высокай. На гэта ў значнай ступені паўплываў і выхад з баявога ўжытку «блях», якія ў якасці самастойнай аховы тулава складалі значную канкурэнцыю панцырам да сярэдзіны XVI ст. У параўнанні з кірасай панцыр меў як свае «мінусы», так і «плюсы». Ён не мог забяспечыць такой адпорнасці паражаючым сродкам праціўніка, якую гарантавала «зброя бляхавая». Разам з тым панцыр забяспечваў ваяру большую рухомасць і пакрываў большую, чым кіраса, паверхню цела.

З кальчужнай пляцёнкі маглі выраблящца разнастайныя элементы, якія пакрывалі асобныя часткі цела. Яны ўжываліся як у спалучэнні з уласна панцырам, так і ў складзе пласцінавага даспеха альбо як дапаўненне да яго. Найстаражытнейшым з такіх элементаў з'яўлялася барміца некаторых відаў шлемаў, а таксама колкавыя каптуры і нагавіцы. Апошнія ў XVI ст. ужо не ўжываліся, тады як каптуры фіксуюцца яшчэ ў дакументах сярэдзіны гэтага стагоддзя. Для аховы шыі выкарыстоўваліся кальчужныя абойчыкі. Бытавалі таксама кальчужныя рукавы — зарукаўі, спаднічкі — шорцы і кароткія штонікі — «*pludry*», альбо «*gace*».


Кальчужныя штонікі са збраёўні Радзівілаў у Нясвіжы


Кальчужны абойчык са збраёўні Радзівілаў у Нясвіжы

Існавала шмат варыянтаў панцыраў. Гэта абумоўлівалася цэлым шэрагам прызнакаў — кроем даспеха, велічынёй, сячэннем і спосабам змацавання



Ватаваны кафтан. Рэч Паспалітая, пачатак XVII ст.

канцоў колкаў і г.д. Найбольш цаніліся панцыры з дробных колкаў, якія валодалі лепшымі засцерагальнымі якасцямі. У той жа час бытавалі горшыя экземпляры з буйнымі і нават не скляпанымі колкамі. Некаторыя панцыры зашпільваліся на грудзях пры дапамозе спражак. Можна было сустрэць таксама ўзоры, якія пакрываліся зверху дарагой тканінай.

Разам з тым тэрмін «панцыр» абазначаў у Вялікім княстве Літоўскім не толькі кольчатыя даспехі, але і любыя эластычныя віды засцерагальнага касцюма. Таму для пазначэння даспеха, вырабленага выключна з колкаў, у Вялікім княстве з другой паловы XVI ст. распаўсюджваецца тэрмін «кальчуга».

Пэўную канкурэнцыю кальчузе як прадстаўніку эластычных даспехаў складалі неметалічныя даспехі. Распаўсюджаныя з вельмі ранняга перыяду, яны фігуруюць у канцы XIV ст. пад назвай «яка» сярод узбраення, вырабляемага ў Польшчы для прадстаўнікоў Вялікага княства. Рабілася яка са скуры альбо з некалькіх слаёў тканіны, перакладзеных ватай. Паміж слаямі тканіны і ваты маглі быць зашытыя жалезныя пласцінкі альбо кальчужнае палатно. Гэта павышала баявыя якасці такога спецыфічнага даспеха і набліжала яго да брыгантыны.

У XVI ст. дастаткова тыповым відам неметалічнай аховы цела з'яўляўся т.зв. цягіляй, які, па ўсёй верагоднасці, патрапіў на землі ВКЛ з Маскоўскай дзяржавы. Маскоўскія цягіляі ўяўлялі сабой набітыя абчоскамі льну ці канаплі альбо ватай прашытыя кафтаны даўжынёй ніжэй калена, з высокім стаячым каўнярам і з кароткімі рукавамі. У сярэдзіну цягіляя маглі таксама зашывацца жалезныя пласцінкі. Часам набіўныя неметалічныя даспехі ўзгадваюцца пад тэрмінамі, выкарыстоўваемымі і для пазначэння звычайнай вопраткі — зіпуна, кафтана. У другой палове XVI ст. кафтаны маглі выступаць як у якасці самастойнай аховы цела, так і ў камплекце з пласцінавымі даспехамі, панцырамі альбо асобнымі панцырнымі элементамі, у прыватнасці зарукаўямі.

Спецыфічнай формай неметалічнага даспеха з'яўлялася ў XVI ст. «скурка», альбо «скурка лося». Можна меркаваць, што ён уяўляў сабой від скуранога кафтана ці хутчэй калета і выкарыстоўваўся як у выглядзе паддаспешнай вопраткі, так і ў выглядзе самастойнай аховы цела.

## Шчыты

Важным элементам засцерагальнага ўзбраення ў разглядаемы перыяд з'яўляліся шчыты, хоць з пашырэннем пласцінавага даспеха сфера іх ужытку звузілася. Ужо ў XIV — пачатку XV ст. можна заўважыць выкарыстанне ў Вялікім княстве Літоўскім некалькіх форм шчытоў. Першы від меў набліжаную да трохкутніка форму з плаўна закругленымі бакавымі краямі. Яны мелі невялікія памеры і набліжаліся да т.зв. тарчаў, прызначаных для патрэб кавалерыі. Для карыстання такімі шчытамі падчас бою з іх унутранага боку змяшчалася досыць складаная сістэма раменных петляў, якая складалася з кароткіх петляў для рукі і доўгага рэменя (пры яго дапамозе шчыт навешваўся на шыю альбо праз плечы). Бытавалі такія шчыты і ў канцы XV ст., прычым яны маглі мець вертыкальнае рабро па цэнтры і ў сувязі з гэтым двухсхілавую форму.



Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу. Канец XV ст.

На аснове трохкутных тарчаў з'явіліся тарчы з закругленым ніжнім краем, так што шчыт набыў паўкруглыя абрысы. Некаторыя з іх мелі выгнутыя наперад верхні і ніжні краі. Да канца XV ст. яны маглі забяспечвацца таксама вертыкальнай гранню, што надавала ім двухсхілавую форму. Зрэдку вертыкальных граняў было дзве, і таму тарчы набывалі хвалістую прафіліроўку.



Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу. Канец XV ст.



Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу. Канец XV ст.



Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу. Канец XV ст.



Фрагмент карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай». 1530—1535 гг.

Прыстасаванне гэтага віду шчытоў для патрэб капійнічай кавалерыі абумовіла забеспячэнне іх спецыяльнай выцінкай пад кап'ё, якая размяшчалася з правага боку.

Да традыцыйных відаў шчытоў належала ў XIV—XV стст. т.зв. павеза. Яна характарызавалася падоўжанай формай, блізкай да крыху звужанага ўнізе прастакутніка са скругленымі вугламі, у якім цэнтр падзяляўся вертыкальным жолабам, надаваўшым шчыту трохчасткавы характар. Пра вялікую папулярнасць павезаў яшчэ ў пачатку XVI ст. сведчыць той факт, што Статут Вялікага княства Літоўскага 1529 г. вызначыў іх у якасці нарматыўнага шчыта коннага рыцарства.

У канцы XV—XVI стст. атрымала шырокае распаўсюджанне вялікая пяхотная павеза і яе яшчэ больш павялічаны варыянт — «тарас». Тарасы цалкам прыкрывалі чалавека, мелі спецыяльны шып для ўтыркання ў зямлю і падпорку з унутранага боку. У шчыце выраблялася спецыяльнае акенца, якое служыла для абсервацыі і выкарыстання наступальнай зброі.



4 Зак. 2302



Парадны шчыт вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста. Нюрнбергскі платнер Кунц Лохнер. Каля 1550 г.



Фрагмент карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай». 1530—1535 гг.





Шчыты-рондашы вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста



Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу. Канец XV ст.

У канцы XV — першай палове XVI ст. можна заўважыць выкарыстанне невялікіх круглых шчытоў з цэнтральнай часткай, выцягнутай наперад у выглядзе шыпа. Круглыя шчыты заходняга і ўсходняга паходжання, выробленыя з самых розных матэрыялаў, бытавалі ў Вялікім княстве і пазней. Сярод іх можна выдзеліць заходнееўрапейскія рэнесансныя шчыты-рондашы і арыентальныя калканы. Апошнія, вельмі папулярныя ў Рэчы Паспалітай у канцы XVI—XVIII стст., вырабляліся з канцэнтрычна размешчаных прутоў, пераплеценых шнурамі. Для



Венгерская гусарская тарча. Канец XV—пачатак XVI ст.



Венгерская гусарская тарча. XV ст.

павышэння трываласці калканы па цэнтры ўзмацняліся металічным умбонам.

У XVI ст. у Вялікім княстве Літоўскім распаўсюджваецца характэрная гусарская тарча, якая сфарміравалася ў Венгрыі на базе звычайнай гатычнай тарчы. Яна вызначалася арыгінальнай формай, прыстасаванай для патрэб лёгкай кавалерыі. Гусарская венгерская тарча выраблялася з абцягнутага скурай дрэва і мела паўцыркульную гарызантальную прафіліроўку, а таксама скругленыя ці блізкія да чатырохкутніка абрысы. Верхні край такіх тарчаў, зрэзаны коса, утвараў у левай частцы спічасты выступ, што надавала ім падабенства з птушыным крылом. У правай частцы гусарскіх тарчаў, таксама як і ў іх гатычных праўобразаў, магла мецца выцінка для кап'я.

Гусарскія тарчы маглі багата аздабляцца. Апроч багатай расфарбоўкі ці пазалоты для гэтага выкарыстоўвалася пер'е ці нават цэлыя птушыныя крылы. Падобная практыка з'яўлялася запазычаннем з практыкі, распаўсюджанай у турэцкай элітнай кавалерыі «дэлі». Дарэчы сказаць, што з гэтай самай практыкай звязаны генезіс славутых крылаў, якія з'яўляюцца візітнай карткай гусарыі Рэчы Паспалітай канца XVI—XVIII стст.



Пячатка князя Кейстута. 1379 г.

# НАСТУПАЛЬНАЕ ЎЗБРАЕННЕ

## Клінковая зброя

Мячы

Корды і цесакі

Шаблі

Канчары і шпагі

Кінжалы

## Дрэўкавая зброя

Коп'і

Колюча-сякучая дрэўкавая зброя

## Абуховая зброя

Сякеры і чаканы

Кляўцы (надзакі)

Дубіны, булавы, перначы, кісцяні (баявыя цапы)

## Кідальная зброя

Лукі

Арбалеты

## Рыштунак вершніка і верхавога каня

Рыштунак верхавога каня

Шпоры

# НАСТУПАЛЬНАЕ ЎЗБРАЕННЕ

## Клінковая зброя

### Мячы




броя блізкага бою належала на працягу разглядаемага перыяду да найбольш папулярных сродкаў паражэння і складала аснову індывідуальнага вайсковага рыштунку. Ёй валодала падаўляючая большасць ваяроў Вялікага княства Літоўскага, у тым ліку тыя, што спецыялізаваліся на вядзенні бою на значнай адлегласці і забяспечваліся адпаведным узбраеннем. Зброя блізкага бою падзяляецца на клінковую, дрэўкавую і абуховую. Клінковая зброя выступае ў другой палове XIV—канцы XVI ст. як адзін з найбольш папулярных відаў зброі і ўзбраення наогул. Самую вялікую групу клінковай зброі складаюць мячы.

Пад мячом разумеюць доўгую клінковую сякучую зброю з адкрытай рукаяццю і крыжавінай, а таксама простым двухлязовым клінком даўжынёй больш за 60 см. У часы позняга сярэднявечча ў Еўропе бытавала тры мадыфікацыі мячоў — аднаручныя, палутараручныя і двухручныя. У іх аснове ляжыць даўжыня рукаяці і прыстасаванасць яе для захопу адной ці дзвюма рукамі. Экземпляры з кароткай рукаяццю (у асноўным да 12 см), якую практычна немагчыма ўхапіць дзвюма рукамі, належаць, незалежна ад іншых крытэрыяў, да аднаручных. Да двухручных адносяцца мячы, валоданне якімі адной рукой па прычыне значных памераў і вагі практычна немагчыма і якія канструкцыйна спецыяльна прыстасаваны выключна пад дзве рукі. Даўжыня рукаяці такіх мячоў перавышае 18 см, а агульныя памеры зброі складаюць ад 150 да 200 см і больш. Класічныя друхручныя мячы выступалі выключна як пяхотная зброя. У той жа час палутараручнікамі называюцца мячы, таксама рас-




Меч. Рэканструкцыя клуба «Княжы Гуф»



Меч. Рэканструкцыя клуба «Княжы Гуф»

паўсюджаныя ў XIV—XVI стст., пераважна рыцарскія, з палутараручнай рукаяццю, якую адной рукой можна ўхапіць за навершша. У шэрагу выпадкаў да такіх мячоў можна залічыць экземпляры і з двухручнымі рукаяцямі, але невялікія, каб імі можна было свабодна валодаць і адной рукой.

У XIV—XVI стст. у Вялікім княстве Літоўскім найбольшай папулярнасцю карысталіся доўгія мячы з масіўным клінком і палутараручнай ці двухручнай рукаяццю. Пасярэдзіне клінка такіх мячоў праходзіла канаўка — «дол», які служыў для змяншэння масы зброі. Менавіта такія вялікія колюча-сякучыя мячы былі характэрнымі для цэнтральнаеўрапейскага рэгіёну, у адрозненне ад паўднёва-заходніх краін (Францыі, Італіі, Іспаніі і Англіі), дзе аддавалі перавагу «малому» аднаручнаму мячу, прыстасаванаму ў асноўным для ўколаў. Пераважна колючыя мячы з вузкімі клінкамі без долу, але з рабром пасярэдзіне, што набліжала іх сячэнне да ромба, таксама ўжываліся ў Вялікім княстве Літоўскім у XIV—XVI стст. Але іх рукаяці зноў жа, як правіла, прадугледжвалі магчымасць утрымання дзвюма рукамі. Аднаручныя мячы не карысталіся ў ВКЛ асаблівай папулярнасцю і сустракаліся вельмі рэдка.



Меч XV—XVI стст., знойдзены каля Полацка

Двухручны меч Мікалая Радзівіла Рудога. Вільня, 1572 г.

Асобную групу сярод мячоў, ужываных у Вялікім княстве Літоўскім, складаюць сякучыя мячы. Яны вызначаюцца клінкамі, якія амаль не звужаліся да акруглага вастрыя. Прыкладам такой зброі з'яўляюцца т.зв. венецыянскія мячы канца XV—пачатку XVI ст., знойдзеныя ў Луцку і Себежы, а таксама двухручны меч Мікалая Радзівіла Рудога. Варыянтам сякучых мячоў з'яўляліся катавы экземпляры.




Мячы:
*1* — могільнік Круміняй, Варэнскі р-н., Літва; *2, 4* — Луцк, Украіна; *3* — Малятын, Ровенскі пав., Украіна; *5* — Себеж




Мячы:
*1* — каля Камянца Падольскага, Украіна; *2* — Вадзічкі, Хмяльніцкая вобл., Украіна; *3* — Рыдомля, Валынь, Украіна; *4* — Кіеў




Мячы:
*1* — Цеханавец, Бельскі пав., Польшча;
*2* — могільнік Куршай, Цельшайскі р-н., Літва;
*3* — Старыя Дарогі, Мінская губ., Беларусь



Меч віленскага ката. XVI ст.
Гісторыка-этнаграфічны музей Літвы



Меч вялікага князя літоўскага Жыгімонта Старога. Кракаў, каля 1526 г.



Шляхціц з рыцарскімі «клейнотамі» (рыцарскі пас, ланцуг).Рэканструкцыя клуба «Княжы Гуф»

Яны характарызаваліся масіўным клінком са зрэзаным канцом. Гэта тлумачылася тым, што колючая функцыя ў катавых мячоў не прадугледжвалася наогул.

На працягу XVI ст. мячы ў Вялікім княстве Літоўскім паступова губляюць сваю папулярнасць. Гэта было выклікана найперш тым, што сфера ваеннай напружанасці ў гэты час пераносіцца з захаду на ўсход дзяржавы. Там даводзілася мецць справу з лёгкаўзброеным праціўнікам, супраць якога цяжкі меч, прыстасаваны для рэдкіх сакрушальных удараў ці ўколаў, быў малаэфектыўны. Тым не менш навыкі вырабу мячоў захоўваліся яшчэ ў самым канцы XVI ст. Паслядоўнасць вырабу гэтай зброі была наступная. Першапачаткова выкоўваўся клінок. Меч вастрыўся, пасля чаго адбывалася «мечаванне» (загартоўка, паліраванне і вараненне). У выніку як сам клінок, так і чаранок рукаяці мусілі блішчэць, як люстэрка. Пасля гэтага насаджвалася крыжавіна і навершша. На чаранок надзявалася паліраваная латуневая трубка. Паверх трубкі змяшчалася драўляная рукаяць. Рукаяць, у сваю чаргу, апляталася дротам, завязаным спецыяльнымі «рыцарскімі вузламі» так, каб не рухаліся ні трубка, ні рукаяць.

Меч павінен быў мецць таксама ташку са скуры. Такія ташкі ў выглядзе язычка, змешчанага паміж крыжавінай і рукаяццю і загнутага ў бок клінка, з'явіліся на мячах у канцы XIV ст. Падобны элемент мусіў прадухіляць траплянне ў похву вільгаці, якая магла б выклікаць карозію клінка. Па-за момантам непасрэднага выкарыстання мячы знаходзіліся ў похвах. Аснова похвы складалася з двух кавалкаў дрэва, т.зв. трэсак, абцягнутых скурай ці тканінай. Канструкцыя ўзмацнялася металічнымі акоўкамі



Рыцарскі пас. Рэканструкцыя клуба «Княжы Гуф»



Рыцарскі пас. Рэканструкцыя клуба «Княжы Гуф»

(«абоймамі»), а канец похвы забяспечваўся часта металічным «чаравікам», у той час як яе вусце — металічнай «шыйкай».

Похва разам з мячом прывешвалася да спецыяльнага паса, выробленага са скуры ці моцнай тканіны. У сярэднявеччы гэтай дэталі касцюма надавалі значную ролю, што выявілася ў бытаванні т.зв. рыцарскіх пасаў, якія служылі сімвалам рыцарскай годнасці. Такія пасы ўпрыгожваліся плакеткамі са шляхетных металаў. Да сярэдзіны XV ст. ужываліся таксама пасы, складзеныя выключна са злучаных паміж сабой металічных звенняў, найчасцей прастакутнай формы. Упрыгожаныя пасы маглі ўяўляць сабой досыць значную каштоўнасць. Так, напрыклад, сума, выдаткаваная ў 1393 г. з польскага каралеўскага скарбу на выкуп залачонага паса, закладзенага нейкім ліцвінам Шудзімутам для пакрыцця выдаткаў свайго побыту ў Кракаве, раўнялася 6 грыўням. За такія грошы можна было набыць поўную экіпіроўку коннага стральца (каня з усім рыштункам, шлем, кальчугу, ахову канечнасцей, шчыт, корд і лук).

## Корды і цесакі

Паралельна з мячамі ў Вялікім княстве Літоўскім на працягу ўсяго разглядаемага перыяду ўжываліся корды і цесакі, якія належаць да адналязовай клінковай зброі. Формай корды нагадвалі вялікі нож. Яны мелі просты ці злёгку выгнуты адналязовы клінок і асіметрычную рукаяць з накладнымі тронкамі. Тэхналогія вырабу кордаў была менш складаная, чым мячоў, таму яны з'яўляліся больш дэмакратычным відам клінковай зброі.

Прамежкавае месца паміж мячамі і кордамі займалі цесакі. Іх форма была добра вядома ў Літве яшчэ да XIV ст. Яны былі даўжэйшымі за корды, хаця і карацейшымі за некаторыя віды мячоў. Клінкі цесакоў нагадвалі кордавыя, але сіметрычная рукаяць практычна нічым не адрознівалася ад рукаяці мячоў. У канцы XV ст. пачынаюць сустракацца цесакі з асіметрычнай рукаяццю з накладкамі, часам нахіленай у бок ляза, што яшчэ больш набліжала іх да кордаў. Усё гэта прывяло да таго, што ў XVI ст. паняцці «цясак» і «корд» практычна не размяжоўваліся.

Па сваіх канструкцыйна-функцыянальных асаблівасцях корды і цесакі з'яўляліся пераходным варыянтам ад мяча да шаблі. Яны былі ў большай, чым шаблі, ступені прыстасаваны для колючых удараў, што вельмі цанілася сучаснікамі. На сённяшні дзень вядома некалькі аўтэнтычных кордаў і цесакоў XIV—XVI стст. з тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага. Сярод клінковай зброі яны займаюць па колькасці знаходак другое месца пасля мячоў. Шырока прадстаўлены гэты від клінковай зброі і ў іканаграфіі. У гэтым сэнсе хацелася б звярнуць асаблівую ўвагу на мініяцюры Радзівілаўскага летапісу, дзе выдзяляюцца дзве мадыфікацыі кордаў. Паводле формы клінка некаторыя з іх набліжаюцца да італьянскіх цесакоў (т.зв. «*storta*») пачатку XVI ст.



Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу. Канец XV ст.



5 Зак. 2302



Корды. XV ст.



Корды:
*1* — Мазыр, Беларусь; *2* — Кармелава, Літва; *3* — Ліда, Беларусь



Корды (*1—3*), шабля (*4*):
*1* — Дзіктарай, Анікшчайскі р-н., Літва; *2* — могільнік Якштайчай, Літва; *3* — Крычаў, Беларусь; *4* — Луцк, Украіна

Невядома, наколькі актыўна выкарыстоўваліся корды і цесакі да XVI ст., аднак ужо Статут 1529 г. называе корд у якасці нарматыўнага віду клінковай зброі паспалітага рушэння ВКЛ. Вялікай папулярнасцю карысталіся корды ў другой палове XVI ст. У большасці харугваў паспалітага рушэння гэта быў самы пашыраны від клінковай зброі альбо другі па папулярнасці пасля шабель.

## Шаблі

Сучасныя зброязнаўцы ў якасці вызначальнай рысы шабель вылучаюць закрыўлены клінок, што павышае каэфіцыент карыснага дзеяння сякучага ўдару і дазваляе спалучыць сякучы эфект з рэжучым. У якасці дадатковых прыкмет шаблі выдзяляюцца нахіленая наперад рукаяць і спецыфічнай формы крыжавіна з т.зв. «вусамі» — парнымі адросткамі зверху і знізу, якія находзілі на клінок і рукаяць. Ужыванне шабель у Вялікім княстве Літоўскім мела даўнія традыцыі яшчэ з часоў далітоўскай Русі. З канца XIV ст. шабля даволі шырока бытавала ў Вялікім княстве як галоўны від клінковай зброі татарскіх каланістаў. Шабля з'яўлялася адным з асноўных элементаў наступальнага ўзбраення татараў Вялікага княства Літоўскага і ў XVI ст. Праўда, у другой палове гэтага стагоддзя ў рукі татараў трапляліся таксама іншыя віды клінковай зброі. Аднак і ў гэты час, нягледзячы на выпадкі парушэння «нацыянальнага» характару татарскага ўзбраення (некаторыя асобы нават не мелі лука), у цэлым шабля працягвала заставацца ўлюбёнай клінковай зброяй татарскай конніцы.



Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу. Канец XV ст.

Можна сцвярджаць, што ўжо ў часы праўлення вялікага князя Вітаўта (1392—1430) шаблі былі даволі добра вядомыя ў ВКЛ. Гэтаму спрыялі не толькі татарскія каланісты, але і цесныя кантакты з землямі Усходняй Русі, дзе гэты від зброі карыстаўся вялікай папулярнасцю. Узоры аднализовай закрыўленай зброі шырока прадстаўлены на мініяцюрах Радзівілаўскага летапісу канца XV ст.,

хоць некаторыя з іх (са скошаным канцом абушка) маглі з'яўляцца схематычна паказанымі кордамі (цесакамі). Разам з тым на мініяцюрах маюцца вывы і экземпляраў з клінкамі тыпова шабельнай формы, плаўна звужанымі да вастрыя і без «цесаковага» скосу. Набор маніпуляцый падобнай зброяй, прадстаўлены мініяцюрыстам, даволі разнастайны і ўключае нават удары дзвюма рукамі і ўколы. Больш рэгулярную інфармацыю аб выкарыстанні шабель асобамі нетатарскага паходжання прыносяць дакументы XVI ст. Паводле даных попісу войска 1567 г., у большасці харугваў шабля займала па распаўсюджанасці сярод кавалерыстаў другое месца пасля корда, а ў шэрагу выпадкаў (харугвы Пінскага, Менскага, Рэчыцкага, Мазырскага паветаў, атрады Валынскай зямлі) — нават першае.



Фрагмент карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай». 1530—1535 гг.

У XVI ст. у Вялікім княстве Літоўскім выкарыстоўвалася некалькі відаў шабель. На карціне ананімнага мастака «Бітва пад Оршай» уся лёгкая кавалерыя літоўскага боку ўзброена шаблямі з даволі доўгімі крыжавінамі, пашыранымі на канцах, і з моцна выгнутымі ў бок ляза рукаяцямі, забяспечанымі падоўжанымі «главіцамі». У аголеных шабель можна заўважыць клінок з рэзка абазначаным пашырэннем абушка бліжэй да вастрыя — «ялманню» і з прылеглым да абушка плыткім долам — «баразной». Падобныя экземпляры адпавядаюць венгерскім шаблям пачатку XVI ст., якія, у сваю чаргу, набліжаліся да турэцкіх шабель XV ст. Такія шаблі прызначаліся найперш для ўдараў з пляча, а таксама для ўколаў знізу, пры якіх масіўнае пяро з ялманню «ўкідалася» ў праціўніка.

Сярод шабель, ужываемых у Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XVI ст., сустракаецца падзел на «гусарскія» і «казацкія». Пад гусарскай варта разумець венгерскую шаблю, якая ў другой палове XVI ст. пры захаванні агульнай канструкцыі адчула значныя змены. Мала выгнуты ля крыжавіны клінок такіх шабель набывае бліжэй да вастрыя акруглае ці парабалічнае закрыўленне. Крыжавіна



Шабля ў татарскім стылі. Каля 1600 г.



Шабля вялікага князя літоўскага Стэфана Баторыя. Венгрыя, каля 1560 г.



Шабля ў татарскім стылі. Пачатак XVII ст.

робіцца вельмі доўгай з таксама доўгімі «вусамі». Рукаяць завяршаецца міндалепадобнай «главіцай». Такая шабля прыстасоўвалася найперш для цяжкіх праламываючых удараў, падобных на мячовыя. Казацкія шаблі былі звязаны з татарскай традыцыяй. Яны характарызаваліся клінкамі невялікай крывізны і без ялмані, пашыранымі на канцах крыжавінамі і звужанымі да «главіцы» драўлянымі рукаяцямі, абцягнутымі грубай скурай з рэльефнай паверхняй («яшчурам»). Выдзяляецца група татарскіх клінкоў з загнутым наперад штыкападобным гранёным вастрыём. Як правіла, такія шаблі вызначаліся значнай даўжынёй і масай. Слаба прыстасаваныя да сякучых удараў, яны выконвалі функцыі колючай зброі, накшталт еўрапейскага канчара.

Аднак, нягледзячы на аўтарытэт, якім карысталася шабля ў другой палове XVI ст., яна не здолела выцесніць іншыя віды клінковай зброі і панавала збольшага толькі ў паўднёвых харугвах, дзе неабходнасць прыстасавання пад усходні спосаб вядзення вайны была максімальнай. Больш таго, распаўсюджанне гэтай зброі сустракалася з сур'ёзнымі абмежаваннямі. Яе выкарыстанне цяжкімі кавалерыстамі нават забаранялася спецыяльнымі дакументамі. Гэта тлумачыцца тым, што пры некаторых перавагах над зброяй з простым клінком шабля мела меншыя магчымасці ў плане нанясення ўколаў. А менавіта яны ў шэрагу выпадкаў лічыліся найбольш эфектыўнымі ў конным баі і для прабівання даспехаў праціўніка. Таму ў другой палове XVI ст. побач з шабляй усё часцей, прынамсі ў заможных ваяроў, выступае выключна колючы від клінковай зброі, а менавіта канчар.

## Канчары і шпагі



Канчар. XV—XVI стст. Гісторыка-этнаграфічны музей Літвы



Канчар. XV—XVI стст. Гісторыка-этнаграфічны музей Літвы

У крыніцах Вялікага княства Літоўскага канчары пачынаюць узгадвацца толькі з другой паловы XVI ст. Гэта абумоўлівалася больш шырокім выкарыстаннем іншых відаў клінковай зброі, прыстасаванай для ўколаў, — кордаў і колючых мячоў, а таксама тым, што першапачаткова канчары і мячы не заўсёды дакладна размяжоўваліся. Уласна канчарам можна лічыць форму колючага мяча, якая характарызуецца вельмі доўгім, выключна колючым клінком трохкутнага ці чатырохкутнага сячэння, прыстасаваным для прабівання даспехаў, а таксама рукаяццю, набліжанай у разглядаемы час да мячовай. У канцы XVI ст. канчар усё часцей пачынае выкарыстоўвацца як дапаможны від клінковай зброі кавалерыстаў. Па гэтай прычыне, а таксама з-за значнай даўжыні, супастаўімай з даўжынёй палутараручных і нават двухручных мячоў, канчары насіліся не на поясе ваяра, а мацаваліся непасрэдна да конскага рыштунку, пад каленам вершніка.

Іншым відам клінковай зброі, звязаным сваім паходжаннем з колючымі мячамі і прыстасаваным пераважна для ўколаў, з'яўлялася шпага. Разам з тым па спосабу выкарыстання больш лёгкія шпагі кардынальна адрозніваліся ад колючага мяча і ад канчара, паколькі прызначаліся не для прабівання даспехаў, а для паражэння непакрытых імі ўчасткаў цела, у тым ліку ў месцах стыкоўкі пласцін «зброі». Са з'яўленнем шпагі звязана ўдасканаленне тэхнікі фехтавання, што вымагала больш надзейнай аховы рукі ў выглядзе развітай гарды. Шпагі таксама пачынаюць узгадвацца ў крыніцах Вялікага княства Літоўскага толькі з другой паловы XVI ст. Аднак ужо Статут 1588 г. узгадвае шпагі разам з мячамі, кордамі, шаблямі як даволі тыповы від клінковай зброі.

# Кінжалы




Кінжалы (*2—3*) і фрагмент рыцарскага паса (*1*):
*1,2* — могільнік Барок, Шчучынскі р-н., Беларусь; *3* — Ліда, Беларусь



Кінжалы. Рэканструкцыя клуба «Княжы Гуф»

Кінжалы належаць да кароткай клінковай зброі, непрыдатнай, па прычыне сваіх памераў, да сякучага ўдару і разлічанай на ўколы, незалежна ад формы клінка і канструкцыі рукаяці. У баявой практыцы кінжалы прызначаліся для цеснай рукапашнай сутычкі альбо для дабівання пераможанага праціўніка.

На практыцы функцыю кінжалаў маглі выконваць нажы, часам спецыфічных форм і большых памераў. У першай палове XV ст. у ВКЛ досыць высока цаніліся татарскія нажы. Статут 1566 г. узгадвае нажы сярод «приправ военных», забароненых для вывазу ў непрыяцельскія землі. У другой палове XVI ст. узгадваюцца кінжалы — пуйналы, пугіналы (ад лат. *pugione*, фр. *poignard* і італ. *pugnale*), якія выступалі ў камплекце са шпагамі. Па ўсёй верагоднасці, гэта былі фехтавальныя кінжалы для левай рукі — т.зв. левакі, ці дагі, якія ў той час з'яўляліся элементам шпажнага набору, у прыватнасці дуэльнага.

# **Дрэўкавая зброя**

## Коп'і



ад дрэўкавай зброяй разумеецца зброя, прызначаная пераважна для колючых, але часам і для сякучых удараў, насаджаная на дрэўка, як правіла, па даўжыні не меншае за рост чалавека. У Вялікім княстве Літоўскім дрэўкавая зброя выступае як бадай што самы папулярны элемент наступальнага ўзбраення як конных, так і пешых воінаў. Асабліва гэта тычыцца найбольш масавай групы дрэўкавай зброі — коп'яў, прыстасаваных выключна для ўколаў.

По сваёй канструкцыі коп'і складаюцца з драўлянай жэрдкі — дрэўка, уласцівага для ўсіх відаў дрэўкавай зброі, і насаджанага на яго металічнага колючага, найчасцей сіметрычнага наканечніка — «грота». Апошні ўяўляе сабой сплошчаную альбо шылападобную рабочую частку — «пяро», якое пераходзіць у прызначаную для мацавання з дрэўкам утулку ці, радзей, чаранок. Наканечнікі з утулкай насаджваліся на дрэўка, а з чаранком — убіваліся ў яго.



Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу. Канец XV ст.



Літоўскі вершнік (з гравюры Абрахама Брайна). 1576 г.

Да XVI ст. назва «кап'ё», вядомае ва Усходняй Еўропе здаўна, набывае і вузкае значэнне ў сэнсе цяжкога тараннага рыцарскага кап'я (ад лац. *hasta*). Яшчэ больш часта для гэтага ўжываўся тэрмін «дрэва», ці «дрэўца». Набор маніпуляцый дрэвам быў надзвычай абмежаваны. Падчас атакі яно звычайна заціскалася кавалерыстам пад пахай, і сіла ўдару залежала ад разгону каня. Спецыфічная манера валодання дрэвам абумоўлівала некаторыя характэрныя рысы гэтай зброі. Лічыцца, што наканечнік цяжкіх таранных коп'яў вызначаўся пяром адносна кароткім і вузкім, аднак масіўным, за кошт набліжанага да квадрата ці ромба сячэння. Гэта рабіла яго прыдатным для прабівання даспехаў. Для таго каб вытрымаць магутны ўдар, дрэўка павінна было быць тоўстым. Адпаведна ўтулкі наканечнікаў дрэў былі дастаткова шырокія. Эфектыўнасць выкарыстання дрэва моцна залежала не толькі ад таўшчыні, але і ад даўжыні дрэўка, якая спрыяла паражэнню праціўніка на максімальнай адлегласці. Нейкага пэўнага стандарту ў даўжыні дрэўка, таксама як і ў яго таўшчыні, не існавала, хоць лічыцца, што ў познім сярэднявеччы яно магло дасягаць чатырох метраў. Забяспечанае такім дрэўкам кап'ё мусіла быць досыць масіўным і цалкам адпавядала назве «дрэва». Менавіта масіўнасць дрэў прывяла да з'яўлення спецыяльных апорных крукоў на кірасе, якія аблягчалі маніпуліраванне гэтай грамоздкай зброяй. Таўшчыня дрэўка цяжкіх коп'яў часам была настолькі вялікай, што ў месцы перахопу яго рукой рабілася патанчэнне. Для прадухілення паражэння далоні, што трымала кап'ё, практыкавалася выкарыстанне спецыяльных акруглых шчыткоў. Абавязковым атрыбутам дрэва з'яўляўся сцяжок—«прапорац». На ім маглі змяшчацца рыцарскія геральдычныя знакі. Акрамя таго, падчас атакі прапорцы на апушчаных коп'ях шамацелі і тым самым палохалі варожых коней.



Альшпіс. Аўстрыя, канец XV ст.




Наканечнікі рагацін і вошчапаў: *1* — Мсціслаў, Беларусь; *2* — могільнік Ажугірай, Уценскі р-н., Літва; *3* — могільнік Бячай, Літва; *4, 5, 8* — могільнік Якштайчай, Літва; *6, 7* — Браслаўскі р-н., Беларусь



Шэфеліны. Паўночная Італія, другая палова XV ст.

Варыянтам дрэў, распаўсюджаных у XVI ст., былі гусарскія коп'і. Гэта быў спецыфічны від дрэва, змадэліраванага на венгерска-турэцкі манер. Падобныя коп'і клеіліся з дзвюх палавін, сярэдзіна якіх выбіралася ад вастрыя да рукаяці для змяншэння вагі, што дазваляла павялічыць даўжыню дрэва ў параўнанні з цяжкімі капійнічымі ўзорамі. Склененыя дрэўкі часам апляталіся рэменем ці шнурам і размалёўваліся фарбай. Замест акруглага шчытка, які бараніў руку, гусарскія дрэвы забяспечваліся шарападобнай «куляй». Прапорцы гусарскіх коп'яў былі надзвычай доўгімі (да 4 м) і завяршаліся двума канцамі.

Сярод вузкаспецыяльных коп'яў крыніцы XVI ст. узгадваюць таксама, хоць і вельмі рэдка, «спісы», альбо «шпісы». Гэта былі доўгія пяхотныя пікі, верагодна, аналагічныя тым, якія ўжывала швейцарская пяхота і ландскнехты. Спосаб валодання пяхотнай пікай заключаўся ў тым, што пры абароне тыльны яе канец убіваўся ў зямлю, а вастрыё нахілялася ў бок праціўніка. Пры наступленні піку трымалі дзвюма рукамі, выкарыстоўваючы рознага роду ўколы. Адным з варыянтаў гэтай зброі з'яўляўся т.зв. альшпіс з доўгім шылападобным наканечнікам, забяспечаным у месцы насаджвання на дрэўка маленькім акруглым шчытком.

Разам з тым спісы не атрымалі ў ВКЛ у XVI ст. шырокага распаўсюджання, а ў якасці асноўных тыпаў дрэўкавай зброі пяхоты крыніцы называюць рагаціну і ошчап. У адрозненне ад дрэва і спісы, гэтыя коп'і мелі універсальны характар і ўжываліся ў XVI ст. практычна ва ўсіх родах войск. Апроч пехацінцаў, найбольшай папулярнасцю яны карысталіся ў тых відах кавалерыі, дзе не ўжываўся шчыт. Больш таго, рагаціны і ошчапы выступаюць як звыклая зброя нават тых воінаў, якія не мелі засцерагальнага ўзбраення наогул. Такім ваярам найбольш патрабаваліся коп'і, прыдатныя для фехтавальных прыёмаў. Таму ад рагацін і ошчапаў патрабавалася лёгкасць і мабільнасць, што, у сваю чаргу, вымагала абмежавання даўжыні дрэўка. У часы Стэфана Баторыя даўжыня рагацін складала каля 4 локцяў, што было ў 2 разы менш за даўжыню гусарскіх дрэў. Аддзелы стрэльчай кавалерыі, якім для стральбы неабходны былі свабодныя рукі, прывязвалі рагаціны з правага боку да сядла, прычым канец іх валачыўся па зямлі. Таму рагаціны атрымалі таксама назву «влочні». Адным з варыянтаў рагацін, ужываемых у Вялікім княстве Літоўскім, былі шэфеліны. Гэта былі нямецкія альбо змадэліраваныя на нямецкі ўзор рагаціны з вялікім, але пустацелым наканечнікам, што рабіла іх лёгкімі і прыдатнымі для кідання.

У адрозненне ад рагацін, якія вызначаліся адносна вялікім наканечнікам і тоўстым дрэўкам, ошчапы з'яўляліся лёгкім кап'ём, прызначаным перадусім для кідання. Таму яны забяспечваліся меншым наканечнікам, насаджаным на карацейшае і танчэйшае дрэўка. Падобная зброя, больш вядомая ў XIV—XV стст. як «суліцы», была ў гэты час такая вядомая ў Вялікім княстве, што лічылася нацыянальнай зброяй літоўцаў. Яшчэ ў другой палове XVI ст. яна заставалася найбольш пашыраным відам наступальнага ўзбраення ў жамойцкіх харугвах.

## Колюча-сякучая дрэўкавая зброя

Колюча-сякучая дрэўкавая зброя, у адрозненне ад коп'яў, з'яўлялася ў разглядаемы час атрыбутам выключна пешых ваяроў. З усіх відаў зброі гэтай групы найбольшай папулярнасцю карысталася алебарда. Яна была ўдалым спалучэннем кап'я, сякеры і крука, прызначанага для сцягвання кавалерыстаў з каня. З'явіўшыся ў Еўропе яшчэ ў канцы XIII ст., алебарда ўжо стагоддзем пазней набыла славу надзвычай эфектыўнага сродка барацьбы з цяжкаўзброенай кавалерыяй. У Вялікім княстве Літоўскім алебарды бывалі, што найменей, з канца XV ст. Можна мерка-



Алебарды і бердыш. XV ст.



Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу. Канец XV ст.




Алебарды. XVI ст.:
*1* — Гродна, Беларусь; *2* — Пінск, Беларусь



Алебарда. XV ст. Віцебскі абласны краязнаўчы музей

ваць, што першапачаткова алебарды выступалі на абшарах Вялікага княства Літоўскага як атрыбут наёмных драбаў, у якіх гэта быў адзін з самых папулярных відаў дрэўкавай зброі. У феадальным апалчэнні гэтай дзяржавы алебарды не былі шырока распаўсюджаны, хаця былі прадстаўлены і тут.

Другім відам колюча-сякучай дрэўкавай зброі, ужыванай у Вялікім княстве Літоўскім у XVI ст., з'яўлялася партызана (пратазан). Яна мела выгляд насаджанага на дрэўка доўгага і шырокага двухлязовага наканечніка, які ўнізе, каля ўтулкі, забяспечваўся парай бакавых выступаў у форме паўмесяца, скіраванага рожкамі ўгару. Першапачаткова наканечнікі партызанаў маглі вырабляцца са старых мячовых клінкоў. Аднак партызаны, у адрозненне ад алебард, ужываліся ў Вялікім княстве рэдка.

Імправізаванай зброяй, дастаткова эфектыўнай і грознай у пэўных абставінах, з'яўляліся косы, якія выступалі як прылада вайны падчас народных хваляванняў. Разам з тым у адзінкавых выпадках дакументы Вялікага княства фіксуюць спецыяльныя баявыя косы, якія задумваліся і прадукаваліся як зброя.



Партызаны. XVI—XVII стст.

# Абуховая зброя

## Сякеры і чаканы



а аднаго з найбольш старажытных відаў зброі належыць абуховая зброя, распаўсюджаная яшчэ ў першабытным грамадстве. Пры ўсіх сваіх варыянтах, яна мае вызначальную функцыю — паражэнне праціўніка ці прадмета сваёй масай, узмоцненай шляхам асаджвання на карацейшай ці даўжэйшай рукаяці. Да абуховай зброі залічваюць як экземпляры, у якіх выкарыстоўваецца сякучы паражаючы эфект, так і ўзоры, разлічаныя толькі на аглушаюча-дробячы ўдар. У сувязі з гэтым абуховую зброю можна таксама называць абухова-ўдарнай. Асартымент абуховай зброі ў познім сярэднявеччы быў даволі шырокім і ўключаў сякеры і чаканы, кляўцы, дубіны, булавы, перначы і кісцяні, альбо баявыя цапы. Некаторыя з вышэйзгаданых катэгорый мелі чыста баявыя функцыі, у той час як іншыя ўяўлялі сабой прыстасаваныя для баявых патрэб прылады універсальнага характару.



Перначы. Германія, XV ст. Кляўцы. Германія, XVI ст.

Найбольш распаўсюджаным відам абуховай зброі ў часы позняга сярэднявечча з'яўляліся сякеры. Не ў апошнюю чаргу на гэта паўплываў той факт, што любая сякера, неабходная ў кожнай сялянскай хаце, магла ў выпадку патрэбы ўжывацца як грозная зброя, эфектыўная ў спрактыкаваных руках. Сярод спецыфічных ваенных сякер у XVI ст. выдзяляліся пяхотныя і кавалерыйскія экземпляры. Да сякер пяхоты належалі т.зв. барты, якія вызначаліся шырокім лязом. З тэрмінам «барта» звязваецца ўзнікненне акрэслення «бердыш», які абазначаў сякеру на доўгай рукаяці і з вельмі шырокім, месяцападобным лязом. У XVI ст. бердышы былі тыповай зброяй стралецкай пяхоты ў Маскоўскай дзяржаве.

У ліку сякер спецыфічнай формы, ужываемых кавалерыстамі, у другой палове XVI ст. узгадваюцца чаканы. Такія сякеры ў познесярэдневяковай Еўропе маглі дадаткова мець коп'епадобны грот, які надаваў ім падабенства з алебардамі. Кавалерыйскія экземпляры гэтай зброі вызначаліся кароткай рукаяццю, звычайна не большай за 60 см.

## Кляўцы (надзакі)

Кляўцы фіксуюцца ў крыніцах Вялікага княства Літоўскага з пачатку XVI ст. Таксама як і ў класічных чаканоў, абух кляўцоў быў найчасцей афармлены ў выглядзе малатка, але ролю сякеркі ў іх выконвала завостраная дзюба, загнутая ўніз. Форма кляўцоў, а таксама, верагодна, іх генетычная сувязь са звычайным малатком, абумовіла заходнюю назву такой зброі — «баявы молат», альбо «кавалерыйскі молат». Разам з тым той факт, што не абух, а дзюба, якая служыла для разбівання



6 Зак. 2302



Клявец. Рэч Паспалітая, канец XVI ст.

пласцін даспеха і была вельмі эфектыўным сродкам барацьбы з цяжкой кавалерыяй, з'яўлялася галоўным элементам кляўца, сведчыць пра блізкасць апошняга да такой прылады працы, як кірка. У сувязі з гэтым невыпадковым уяўляецца спектр назваў, выкарыстоўваемых у Вялікім княстве для акрэслення кляўцоў, — уласна «клявец», «надзак» (ад пол. «*nadziak*»), «кірка» і польскі адпаведнік гэтага слова «*kilof*». Адмысловыя «люксавыя» экземпляры кляўцоў маглі камбінавацца з іншымі відамі зброі, напрыклад з сякерамі ці пісталетамі.

## Дубіны, булавы, перначы, кісцяні (баявыя цапы)



Дубіна. Літва, XIV ст.



Пернач. Італія, Германія, XVI ст.

Найстаражытнейшым і найбольш прымітыўным відам абуховай зброі з'яўлялася дубіна. Прасцейшая дубіна ўяўляла сабой драўляную палку з патаўшчэннем на канцы. Павысіць эфектыўнасць дубіны можна было шляхам убівання ў гэтае патаўшчэнне жалезных шыпоў ці цвікоў. Часам шыпы ці крамянёвыя асколкі ўбіваліся ў жывое дрэва. Пасля ўрастання іх у ствол ён ссякаўся і апрацоўваўся да атрымання неабходнай формы. Такія дубіны ў XIV ст. былі тыповай зброяй літоўскіх воінаў.

Неаднаразова фіксуюцца дубіны мініяцюрамі Радзівілаўскага летапісу канца XV ст. Яны паказаны тут у руках як пешых воінаў, так і кавалерыстаў, і маюць выгляд простай сукаватай палкі, палкі з гузападобнымі выступамі на канцы, альбо посаха з загнутым патоўшчаным канцом. У XVI ст. на землях Вялікага княства Літоўскага дубіны былі вядомыя як «кіі».



Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу. Канец XV ст.



Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу. Канец XV ст.




Ударная зброя:
*1* — пернач з Хабултава былога Уладзімірскага пав.; *2* — дубіна са збораў Гісторыка-этнаграфічнага музея Літвы; *3* — кісцень з Гродна; *4* — клявец з Крычава



Баявыя цапы (кісцяні). XIV—XV стст. Гісторыка-этнаграфічны музей Літвы

Баявы цэп (кісцень). XIV—XV стст. Гісторыка-этнаграфічны музей Літвы

Высокія баявыя якасці дубіны абумовілі імкненне яшчэ больш павысіць яе эфектыўнасць шляхам вырабу ўдарнай часткі, альбо навершша, са шчыльнейшага матэрыялу. Пра цесную генетычную сувязь такой зброі са звычайнымі дубінамі сведчыць і тое, што ў Старажытнай Русі яны таксама называліся кіямі. У XVI ст. яны ўжо выступаюць пад назвай «булава». Пад уласна булавой варта разумець зброю з акруглым ці шматгранным навершшам, выкананым з металу і забяспечаным адтулінай пасярэдзіне для насаджвання на драўляную ці, радзей, металічную рукаяць.

Мадыфікацыяй булаў з'яўляліся экземпляры з навершшамі, падзеленымі на некалькі вертыкальна размешчаных лопасцей («пер'яў»), якія радыяльна разыходзяцца ад цэнтра. Зброя падобнага кшталту была вядомая яшчэ ў далітоўскай Русі. У пісьмовых крыніцах яны ўжо на пачатку XVI ст. абазначаліся самастойным тэрмінам «пярнач».

Спецыфічную канструкцыю меў такі від абуховай зброі, як кісцень, ударная частка якога ў выглядзе гіркі не насаджвалася на рукаяць, а мацавалася да яе пры дапамозе рэменя, вяроўкі ці ланцуга. Такія кісцяні ўваходзяць у больш шырокую групу баявых цапоў. У шэрагу выпадкаў рукаяць магла адсутнічаць і рэмень ці вяроўка проста намотваліся на руку. З'явіўшыся ва Усходняй Еўропе ўжо ў раннім сярэднявеччы, кісцяні ўжываліся ў Вялікім княстве Літоўскім яшчэ ў XV—XVI стст., хаця звесткі аб іх выключна скупыя.



6*

# Кідальная зброя

## Лукі



ук з’яўляецца адным з найстаражытнейшых тыпаў зброі, разлічанай на паражэнне праціўніка на значнай адлегласці. У аснове прынцыпу дзеяння лука ляжыць згінанне пругкага прута шляхам адцягвання прымацаванай да яго канцоў струны — цецівы, якая пры рэзкім выпростванні прута напінаецца і выкідае снарад. Выдзяляюць простыя лукі, у якіх прут, ці лукавішча, выраблялася з аднаго кавалка дрэва пэўных парод, і складаныя, што характарызаваліся спецыфічнай формай лукавішча, сабранага з неаднародных матэрыялаў.

У сярэднявеччы на тэрыторыі Усходняй Еўропы прыярытэтнае значэнне меў складаны лук, вядомы яшчэ ў Старажытнай Русі. Тыповай рысай усіх такіх лукаў была спецыфічная канструкцыя, якая вызначалася моцным загінаннем наперад канцоў лукавішча. Пры надзяванні цецівы гэтыя канцы спачатку выпростваліся, а затым адгіналіся назад. Такім чынам значна павялічвалася пругкасць лука без павелічэння яго даўжыні, што было асабліва карысным для конных стральцоў. Пры надзетай цеціве форма складанага лука нагадвала шырокую літару М з плаўнымі перагінамі.



Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу. Канец XV ст.

Аснова лука склейвалася з дзвюх планак розных парод дрэва (ядлоўцу і бярозы, сасны і бярозы) пры дапамозе рыбінага клею. Асобна вырабляліся з моцнага дрэва (бярозы, чаромхі і інш.) канцы лука, якія таксама прыклейваліся да асновы. Уздоўж знешняга боку лука (спінкі) наклейваліся сухажыллі, павышаўшыя магутнасць зброі. Канцы лука з бакоў абклейваліся касцянымі накладкамі з выцінкамі для цецівы, якія таксама часткова находзілі на аснову. Пасярэдзіне асновы на рукаяць наклейваліся з бакоў, а часам і знутры, яшчэ адны накладкі, а месцы сучлянення частак лука (вузлы), як правіла, два ля рукаяці і два ля канцоў, абкручваліся сухажыллямі паверх клею. Пасля гэтага ўвесь лук, за выключэннем канцоў, абклейваўся паскамі вываранай бяросты для аховы ад сырасці. Старажытнарускія лукі, падобна татарскім і арабскім, рэдка мелі даўжыню больш за 160 см, а з надзетай цецівой — больш за 130 см. Дальнасць стральбы з такой зброі звычайна складала 200—250 м.

Узрастанню папулярнасці лука ў Вялікім княстве Літоўскім спрыялі татарскія каланісты, якія, пачынаючы з часоў Вітаўта, з’яўляліся неад’емнай часткай узброеных сіл дзяржавы. Ужо тады татарскія лукі карысталіся ў Літве значным аўтарытэтам і адначасова разглядаліся як мясцовая экзотыка, здатная зацікавіць прадстаўнікоў Захаду. Верагодна, таму такі лук увайшоў у склад рэчаў, падараваных у 1421 г. Вітаўтам паслу англійскага караля і бургундскага герцага Жыльберу дэ Лануа. Цікава, што апошні, у сваю чаргу, перадаў у тым жа годзе Ягайлу ад Генрыха V два славутыя англійскія лукі.

Найбольшую папулярнасць лукі набылі ў XVI ст. У гэты час яны з’яўляліся галоўным відам зброі далёкага бою кавалерыі Вялікіга княства.

## Арбалеты

Арбалет вядзе свой генезіс з часоў антычнасці. Новая фаза ва ўжыванні арбалета ў Еўропе пачынаецца з канца X ст., і ў далейшым ён выступае ў сярэднявеччы як адзін з асноўных відаў зброі далёкага бою. Арбалет уяўляў сабой механізаваны лук, прымацаваны да ложа пры дапамозе шнуроў, скураных



Арбалет. Рэканструкцыя клуба «Княжы Гуф»



Арбалет з «казінай нагой»

рамянёў ці пары металічных петляў, якія пасля ўстаўлення ў іх лука заклініваліся. Арбалетная ложа забяспечвалася прыстасаваннем для ўтрымання цецівы ў нацягнутым стане і спускавым механізмам. Такая канструкцыя дазваляла раздзяліць працэсы нацягвання зброі, прыцэльвання і страляння, якія ў выпадку выкарыстання звычайнага лука праводзіліся практычна адначасова. Дзякуючы гэтаму карыстанне арбалетам з'яўлялася лягчэйшым, зручнейшым і патрабавала меншай спрактыкаванасці.

Галоўны элемент спускавога механізма арбалета складала шайба — «арэх», змешчаная ў спецыяльным гняздзе ложа такім чынам, што над яго паверхняй выступаў толькі зачэп для цецівы. Несвоечасовае вызваленне цецівы з зачэпа прадухілялася курком, ці спускавым рычагом, які ўпіраўся ў засечку арэха насупраць зачэпа. У месцы праходжання восі пракручвання арэх мог мець адтуліну для мацавання да ложа, аднак у некаторых арбалетаў арэхі не мацаваліся, а свабодна «плавалі» ў гняздзе.

Першапачаткова нацягванне арбалета ажыццяўлялася ўручную. З XIII ст. і надалей для гэтага пачалі ўжываць разнастайныя прыстасаванні, такія як нацяжны крук, «казіная нага», англійскі і нямецкі калаўроты. Найпрасцейшым і найбольш раннім прыстасаваннем быў падвешаны да пояса нацяжны крук, адзінарны ці двайны, які чапляўся за цеціву, у той час як у спецыяльнае стрэмя, прымацаванае да пярэдняй часткі ложа перад лукам, устаўлялася сагнутая нага. Выпростваючы нагу ці разгінаючы тулава, стралец нацягваў лук да фіксацыі цецівы зачэпам арэха. Магчымасць досыць хуткага прывядзення зброі ў баявую гатоўнасць як пешым, так і конным ваяром абумовіла папулярнасць і працяглы час бытавання такой сістэмы.



Пяхотны арбалет з англійскім калаўротам



Арбалет з нямецкім леварам

«Казіная нага» ўяўляла сабой камбінаванне двайнога крука з аднаплечым рычагом, да якога ён мацаваўся на шарнірах. Рычаг чапляўся раздвоеным канцом за спецыяльныя штыфты на ложы і адводзіўся назад, адцягваючы крук з цецівой. Пасля напінання цецівы прылада здымалася, пакуль не ўзнікала неабходнасць у новым нацягванні. Яшчэ больш эфектыўным быў англійскі калаўрот, пабудаваны на прынцыпе блока ці сістэмы блокаў, а таксама нямецкі калаўрот, вядомы ў Вялікім княстве Літоўскім як «гевар» (гевер). У аснове «гевара» ляжала чарвячная ці зубчастая перадача, пры дапамозе якой рукаяць круціла шасцярню са штыфтамі. Штыфты, у сваю чаргу, рухалі зубчастую рэйку, забяспечаную на адным з канцоў двайным крукам для зачэпа цецівы. Перадатачны механізм змяшчаўся ў металічны корпус, які пры нацягванні чапляўся за штыфты на ложы. Выкарыстанне падобных прыстасаванняў дазваляла значна павялічыць сілу нацяжэння арбалетаў, што зрабіла магчымым пераход да больш магутных лукаў, у тым ліку з рога ці сталі. Для такіх лукаў патрабавалася адпаведна тоўстая трывалая цеціва. Прабіўная здольнасць стралы (балта), выпушчанай з дасканалага арбалета, была вышэйшай, чым у звычайнага лука, аднак па хуткастрэльнасці арбалет, асабліва са складаным нацяжным механізмам, саступаў луку ў некалькі разоў.

Спецыфічную канструкцыю мелі і арбалетныя балты. Дрэўкі іх былі карацейшыя, але больш масіўныя, чым у звычайных стрэл. Масіўнасцю вызначаліся і наканечнікі балтоў, кароткія і гранёныя, выдатна прыстасаваныя для прабівання засцерагальнага ўзбраення праціўніка.

На землях, уваходзіўшых у разглядаемы час у склад Вялікага княства Літоўскага, арбалеты сталі ўжываліся з XIII ст. Да канца XVI ст. арбалет выступае тут як досыць тыповая зброя, хоць сам тэрмін «арбалет» тут не быў вядомы. Замест яго, побач з лацінскім акрэсленнем «balista», выкарыстоўвалася назва «самастрэл», а пазней — «куша». Да самага пачатку XVI ст. арбалеты па папулярнасці не саступалі лукам, а часам нават пераўзыходзілі іх. Самастрэлы разглядаліся як «стратэгічная» зброя. Забеспячэнне імі памежных замкаў дзяржавы прыцягвала пастаянную ўвагу кіраўніцтва Вялікага княства. Арбалеты прадукаваліся на месцы і імпартаваліся, пераважна з Польшчы. У першай палове XVI ст. арбалеты выходзяць з баявога ўжытку, застаючыся паляўнічай зброяй.

## Рыштунак вершніка і верхавога каня



родкі сядлання баявога каня і кіравання ім не належаць непасрэдна да элементаў узбраення, аднак у часы, калі кавалерыя з'яўлялася асноўнай вайсковай сілай, іх эвалюцыя была цесна звязана з узроўнем ваенна-тэхнічнай думкі ў цэлым.

Фарміраванне рыштунку вершніка і верхавога каня на еўрапейскім абшары ў познім сярэднявеччы абумоўлівалася існаваннем падзелу конніцы на цяжкую і лёгкую, прычым кожная забяспечвалася ўзбраеннем рознага функцыянальнага прызначэння і рознай вагі. Больш таго, гэтая дыферэнцыяцыя прыводзіла да павышэння патрабаванняў да канстытуцыі саміх коней. Лічыцца, што для прадухілення празмернага абцяжарвання каня яго маса павінна перавышаць масу вершніка, прынамсі, у пяць разоў. Сыходзячы з гэтага, па меры распаўсюджання ўсё больш разбудаванай аховы цела вастрэй узнікала патрэба ў забеспячэнні цяжкой кавалерыі спецыяльнымі коньмі, рослымі, дужымі і вынослівымі, якія б маглі несці на сабе вершніка ў поўным капійнічым узбраенні.

Выкарыстанне верхавога каня забяспечвалася пры дапамозе цэлага камплекта прыстасаванняў, якія, апроч таго, залежалі ад манеры вядзення бою вершніка. Для ваяроў, узброеных кап'ём таранннага тыпу, была неабходна максімальная статычнасць і ўстойлівасць, у той час як стральцам патрабавалася мабільнасць, якая аблягчала маніпуляванне зброяй з розных пазіцый. Такім чынам, сярод фактараў, уплываўшых на фарміраванне рыштунку вершніка і каня, у першую чаргу можна вылучыць характар наступальнага ўзбраення вершніка,



Фрагмент карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай». 1500—1535 гг.



Конскі даспех вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста. Нюрнбергскі даспешнік Кунц Лохнер. XVI ст.

наяўнасць альбо адсутнасць у яго цяжкога даспеха (а раз-пораз і даспеха самога каня) і, у сувязі з гэтым, асаблівасці целаскладу конскага індывіда.

## Рыштунак верхавога каня

Рыштунак верхавога каня выступае ў крыніцах Вялікага княства Літоўскага XVI ст. пад тэрмінамі «зброя» і, што значна часцей, «рад». У склад «раду» ўваходзілі аброць, уключаўшая цуглі, раменны нагаловак і павады, а таксама сядло з падкладзеным пад яго чапраком альбо потнікам, страмёнамі, папругай, грудымі і пахвіннымі рамянямі.

У XIV — XVI стст. у Вялікім княстве былі ва ўжытку два віды конскай збруі — заходняя і ўсходняя, якія адрозніваліся найперш тыпам сядла. Для заходнееўрапейскай традыцыі найбольш характэрным з'яўлялася рыцарскае сядло, прызначанае для цяжкаўзброенага капійніка. Аснову такога сядла складалі дзве аркападобныя лаўкі, размешчаныя перпендыкулярна да конскага хрыбта. Сядло шчыльна прылягала да спіны каня, што тлумачылася патрабаваннямі максімальнай устойлівасці вершніка. Па гэтай самай прычыне сядзельныя лукі рабіліся высокімі і шырокімі, прычым пярэдняя лука, часта абітая металічнай бляхай, утварала дадатковую ахову жывата кавалерыста, а спецыфічна выгнутая задняя лука, змадэлiраваная накшталт крэсла, забяспечвала надзейную апору для ягонай спіны. Страмёны мацаваліся да сядла на доўгіх рамянях — путлішчах. У рыцарскім сядле вершнік сядзеў глыбока, маючы выпрастаныя ногі, якімі ён падчас атакі моцна ўпіраўся ў страмёны. Першапачаткова ногі пры гэтым выносіліся наперад, аднак у XV ст. іх сталі больш адстаўляць у бакі і ўніз.



Цяжкое капійнічае сядло з акаванымі бляхай лукамі. Германія, XVI ст.

Усходняе сядло, звязанае сваім паходжаннем з Азіяй, было меншым, лягчэйшым і больш плыткім. Яно не прылягала шчыльна да конскай спіны, а абапіралася на яе дзвюма лаўкамі, размешчанымі паралельна па баках хрыбта жывёлы, які пры гэтым заставаўся свабодным. Гэта было выклікана анатоміяй лёгкіх усходніх коней. Іх выступаючы хрыбет у выпадку выкарыстання заходніх сёдлаў адчуваў бы празмерныя нагрузкі. Дзякуючы выкарыстанню паралельных лавак аснова ўсходніх сёдлаў была вышэйшай, аднак сядзельныя лукі (асабліва задняя) рабіліся больш нізкімі і палогімі. Страмёны мацаваліся да такіх сёд-



Сядло маскоўскае. XVI ст.

лаў на кароткіх путлішчах. Усходняя пасадка з падагнутымі нагамі была не такой устойлівай, як на Захадзе, але затое яна дазваляла свабодна паварочвацца ва ўсе бакі, што было неабходным для манеўровых стралкоў з лука.

Асаблівая разнастайнасць ва ўжыванні конскага рыштунку назіраецца ў Вялікім княстве Літоўскім у XVI ст. Заходнія «рады» былі прадстаўлены ўзорамі нямецкага і італьянскага паходжання. Некаторыя з іх мелі лукі, абітыя бляхай, што стварала дадатковую ахову ног вершніка. Сярод усходняга рыштунку пераважаў турэцкі і маскоўскі, а таксама «ярчакі» — сёдлы невялікіх памераў з нізкімі лукамі і прышпіленай падушкай. Для маскоўскіх сёдлаў была характэрна высокая аснова і вышэйшая пярэдняя лука, як правіла, нахіленая наперад. Яе верхняя частка ўтварала спецыфічнай формы галоўку, загнутую пашыранымі краямі вонкі. Задняя лука рабілася нізкай і палогай, каб забяспечыць вершніку свабодны паварот у сядле. Турэцкія сёдлы шчыльней кладзіся да конскай спіны, але не прылягалі да яе цалкам. Пярэдняя лука мела характэрнае завяршэнне ў выглядзе фігурнага завостранага выступу. Задняя лука была даволі шырокая, але палогая. І маскоўскія, і турэцкія сёдлы мелі па баках абвіслыя «крылы».

Асобную мадыфікацыю складалі гусарскія сёдлы. Яны спалучалі ў сабе заходнія і ўсходнія рысы. Да апошніх належаць паралельна размешчаныя па баках конскага хрыбта лаўкі і вузкая пярэдняя лука, канец якой загінаўся наперад. У той жа час шырокая задняя лука, якая забяспечвала вершніку трывалую пасадку, з'яўлялася элементам, сфарміраваным пад уплывам заходніх капійнічых сёдлаў. Генетычна гусарскія сёдлы былі звязаны з венгерскімі ўзорамі, якія маюць падобную канструкцыю.




Страмёны:
*1* — Гродна, Беларусь; *2, 3, 4* — Крычаў, Беларусь

Апроч сядла важную ролю ў забеспячэнні пасадкі кавалерыста на кані адыгрывалі страмёны. Іх канструкцыя не ў такой ступені залежала ад комплексу ўзбраення ў цэлым, хаця некаторыя дэталі могуць сведчыць аб выкарыстанні тых ці іншых тыпаў страмёнаў цяжкімі альбо лёгкімі вершнікамі. Перш за ўсё гэта тычыцца петляў у верхняй частцы дужак. Шырокія, больш за 3 см, петлі ўказваюць на выкарыстанне трывалых путлішчаў, здольных вытрымаць вагу ў масіўным узбраенні і забяспечыць трывалы ўпор для ягоных ног пры выкарыстанні характэрнай капійнічай пасадкі ў сядле. Пэўную ўвагу прыцягвае таксама ступень разагнутасці дужак. Значная ўнутраная шырыня дужак ускосна сведчыць аб магчымасці ўжывання баявых ахоў ступні, а значыць, і цяжкога засцерагальнага ўзбраення ў цэлым.

Асобна варта спыніцца на баявых пакрыццях каня, не звязаных непасрэдна з яго седлаваннем і кіраваннем. У XIV — першай палове XV ст. такія пакрыцці выступаюць у выглядзе папоны, вядомай у польскай тэрміналогіі як «кропеж» (*kropierz*). «Кропежы» вырабляліся з тканіны альбо скуры і пакрывалі каня цалкам, ад галавы да капытоў. Яны складаліся з дзвюх раздзельных частак — пярэдняй і задняй. Пярэдняя частка сшывалася з двух кавалкаў, прычым швы ішлі ўздоўж горла і хрыбта каня. Ад грудзей да нізу рабіўся разрэз, а ў нагалоўнай частцы праразаліся адтуліны для вачэй, а часам і вушэй жывёлы. У некаторых выпадках галава пакідалася адкрытай цалкам. Задняя частка «кропежу» краілася ў выглядзе паўкруга ці круга; абедзве часткі злучаліся паміж сабой на конскай спіне пад сядлом.

Што тычыцца чыста утылітарнага конскага пакрыцця, вырабленага з металічных пласцін, — даспеха, то выкарыстанне ў Вялікім княстве Літоўскім татарскіх конскіх даспехаў магло мець месца яшчэ з XIV — пачатку XV ст. На гэта ўказвае жалезны конскі нагалоўнік, датаваны менавіта гэтым часам і знойдзены ў Рамашках Кіеўскай вобласці.



Налобнік конскага даспеха ў максімільянаўскім стылі са збраёўні Радзівілаў у Нясвіжы. Германія, першая чвэрць XVI ст.



Налобнік татарскага конскага даспеха. Рамашкі, Кіеўская вобл., XIV — першая палова XV ст.



Налобнік конскага даспеха ў максімільянаўскім стылі са збраёўні Радзівілаў у Нясвіжы. Германія, першая чвэрць XVI ст.



Конскі налобнік з даспешнага гарнітура Мікалая Радзівіла Чорнага. Нюрнбергскі платнер Кунц Лохнер. Каля 1550 г.

На пачатку XVI ст. браніраванне рыцарскіх коней было ў ВКЛ справай звычайнай. Ужываліся як поўныя даспехі, так і асобныя іх элементы. Часта практыкавалася выкарыстанне аднаго конскага налобніка — «рашкофа» (ад ням. *Rosskopf* — конская галава). Асабліва вызначаліся ў плане выкарыстання металічных пакрыццяў каня магнаты, напрыклад Радзівілы, у арсеналах якіх налічваліся дзесяткі такіх камплектаў.

## Шпоры

Шпоры, альбо, згодна з тэрміналогіяй, бытаваўшай у Вялікім княстве Літоўскім, «астрогі», з'яўляліся сярод сродкаў кіравання канём адзіным элементам, які ўвахадзіў непасрэдна ў экіпіроўку вершніка. Разам з тым форма і канструкцыя шпор былі цесна звязаны з рыштункам верхавога каня, найперш з даўжынёй путлішчаў і тыпам сядла, які вымагаў пэўнай пасадкі ў ім.

Шпоры, бытаваўшыя ў Вялікім княстве ў XIV — канцы XVI ст., можна падзяліць на некалькі груп. У аснове іх вылучэння ляжыць форма дужак і шыпа. Шпоры самага ранняга тыпу вядуць свой пачатак ад XIII ст. Яны характарызуюцца дужкай, якая мае плаўны альбо каленчаты выгін. Канцы дужкі забяспечваліся зачэ-



Шпоры. Рэканструкцыя клуба «Княжы Гуф»



7 Зак. 2302



Шпоры. Рэканструкцыя клуба «Княжы Гуф»




Шпоры:
*1* — Навагрудак, Беларусь; *2* — Бацікі, Бельскі пав., Польшча; *3* — Шклоў, Беларусь; *4* — Мінск; *5* — Крычаў, Беларусь

памі ў выглядзе адзінарных ці двайных петляў прастакутнай альбо круглай формы. Да гэтых петляў мацаваліся два рамяні, пры дапамозе якіх шпора прышпільвалася да нагі, прычым адзін рэмень праходзіў пад ступнёй, а другі — паверх яе. На пятачнай частцы дужкі мелася пашырэнне, часам у выглядзе язычка, прадухіляўшае коўзанне шпоры па пяце. Шып, які служыў непасрэдна для прышпорвання каня, быў скіраваны ўніз, меў кароткую шыйку і раздвоены канец — вілку, што ўтрымлівала зоркападобнае колка.

У XV ст. у Вялікім княстве Літоўскім, як і ў цэлым у Еўропе, распаўсюджваецца сфарміраваны на базе ўзораў першай групы спецыфічны тып шпор, які характарызуецца вельмі доўгім шыпам і зорачкай з нешматлікімі спічастымі промнямі. Лічыцца, што на з'яўленне падобных экземпляраў аказала ўплыў адмысловая рыцарская пасадка ў сядле на выпрастаных нагах, якая патрабавала абмежавання згінання ног у калене, каб не губляць стрэмя. Аднак з улікам таго, што такая пасадка была распаўсюджана ў Еўропе яшчэ раней, да XV ст., уяўляецца, што на падаўжэнне шыпоў шпор паўплывала і гатычная мода з яе імкненнем да спічастых, выцягнутых форм.

Яшчэ адной, апроч падаўжэння шыпа, тэндэнцыяй у эвалюцыі познесярэдневяковых шпор было выпростванне іх дужак. Найбольш інтэнсіўна гэты працэс адбываўся ў XV—XVI стст., калі распаўсюджваліся экземпляры з абсалютна простай у бакавой праекцыі дужкай. Канструкцыйна яны набліжаліся да шпор, выкарыстоўваемых у XVI ст. гусарамі. У Рэчы Паспалітай гусарскія шпоры бытавалі да сярэдзіны XVII ст. Пасля гэтага яны былі выцеснены шпорамі, набліжанымі да райтарскіх і кірасірскіх, якія мелі кароткія выгнутыя шыйкі.

# Рэканструкцыі ўзбраення сярэдневяковых ваяроў паводле археалагічных, выяўленчых і пісьмовых крыніц

## A

Татарскі вершнік. XIV ст.
Знатны цяжкаўзброены літоўскі кавалерыст. Другая палова XIV ст.
Конны арбалетчык. Канец XIV—XV стст.

## B

Сярэднеўзброены капійнік. XV ст.
Шэраговы апалчэнец Вялікага княства Літоўскага. Канец XIV — пачатак XV ст.
Знатны воін з украінскіх зямель Вялікага княства Літоўскага. Канец XIV — пачатак XV ст.

## C

Шэраговы літоўскі апалчэнец. XV ст.
Цяжкаўзброены капійнік Вялікага княства Літоўскага. Другая палова XIV — пачатак XV ст.
Цяжкаўзброены рыцар. Канец XIV — пачатак XV ст.

## D

Сярэднеўзброены вершнік. Другая палова XV ст.
Вершнік рускіх зямель Вялікага княства Літоўскага. Другая палова XV ст.
Пешы алебардыст. Канец XV ст.

## E

Цяжкаўзброены капійнік. Канец XV ст.
Цяжкаўзброены капійнік. Канец XV ст.

## F

Рыцар у нарматыўным узбраенні. Канец 20-х гг. XVI ст.
Гусар. Першая палова XVI ст.
Знатны феадал з паўднёвых зямель Вялікага княства Літоўскага. Пачатак XVI ст.

## G

Пешы капійнік. Другая палова XVI ст.
Вершнік, узброены «па-казацку». Сярэдзіна XVI ст.
Воін у маскоўска-турэцкім узбраенні. XVI ст.

## H

Знатны воін, узброены «па-нямецку». Другая палова XVI ст.
Жамойцкі апалчэнец. XVI ст.
Гусар. Другая палова XVI ст.



***A1:*** *Татарскі вершнік. XIV ст. Рэканструкцыя паводле раскопак пахавання каля в. Каірка Калачынскага р-на Херсонскай вобл. (Украіна).*
Падобны вершнік мог з'яўляцца як праціўнікам Вялікага княства Літоўскага, так і воінам войска гэтай дзяржавы. Узброены складаным лукам, шабляй і булавой-перначом. Засцерагальнае ўзбраенне складаецца з кальчугі, наручаў—«карвашаў» і шалома з нахіленым верхам, які насіўся паверх лямцавага падшлемніка з прымацаванай да яго барміцай з медных колкаў.

***A2:*** *Знатны цяжкаўзброены літоўскі кавалерыст. Другая палова XIV ст. Рэканструкцыя паводле пячаткі Кейстута 1379 г.*
Воін забяспечаны цяжкім, хоць трохі архаічным узбраеннем. Галаву ахоўвае капалін мясцовай формы, набліжаны да візантыйскіх узораў, надзеты паверх кальчужнага каптура. Рэшта засцерагальнага рыштунку складаецца з кальчугі з доўгімі рукавамі і рукавіцамі, кальчужных нагавіц, лямелярнага даспеха і тыповага шчыта—павезы. Наступальнае ўзбраенне — палутараручны колюча-сякучы меч, які павінен дапаўняцца лёгкім кап'ём — суліцай.

***A3:*** *Конны арбалетчык. Канец XIV—XV стст. Рэканструкцыя паводле пісьмовых крыніц і археалагічных знаходак.*
Асноўнай зброяй ваяра з'яўляецца арбалет з нацяжным паясным крукам, які мог дапаўняцца клінковай зброяй. Засцерагальнае ўзбраенне — кальчужны панцыр і прылбіца з рухомым наноснікам.



***B1:*** *Сярэднеўзброены капійнік. XV ст. Рэканструкцыя паводле мініяцюр Радзівілаўскага летапісу і археалагічных знаходак.*
Рыцар узброены рагацінай ці ошчапам і кордам. Засцерагальны рыштунак складаецца з капаліна, кальчугі з доўгімі рукавамі, архаічных платаў і складанапрафіляванай тарчы.

***B2:*** *Шэраговы апалчэнец Вялікага княства Літоўскага. Канец XIV — пачатак XV ст. Рэканструкцыя паводле пісьмовых крыніц і археалагічных знаходак.*
Апалчэнец належыць да простых, але някепска забяспечаных воінаў. Аснову яго ўзбраення складаюць рагаціна, вялікі баявы нож, панцыр з доўгімі рукавамі і павеза. Нагруднік кірасы і шалом-бацынет маглі быць здабыты ў якасці трафея ці атрыманы ў ходзе масавых паставак з Польшчы, якія праводзіліся ў рамках падрыхтоўкі да барацьбы з Тэўтонскім ордэнам.

***B3:*** *Знатны воін з украінскіх зямель Вялікага княства Літоўскага. Канец XIV — пачатак XV ст. Рэканструкцыя паводле пячатак князёў Дзмітрыя Карыбута (1386) і Свідрыгайлы (1420), а таксама археалагічных знаходак.*
Экіпіроўка знатнага рыцара, напэўна князя, уяўляе цікавы сімбіёз перадавога заходняга і ўсходняга ўзбраення з традыцыйным балцкім, прадстаўленым, у прыватнасці, лёгкім кідальным кап'ём — суліцай. Да заходніх элементаў належаць палутараручны меч, выгнутая тарча, крытая кіраса і пласцінавыя пакрыцці канечнасцей, тады як конскі рыштунак разам з металічным нагалоўнікам і характэрны шалом з брыльком маюць татарскае паходжанне.



***C1:** Шэраговы літоўскі апалчэнец. XV ст. Рэканструкцыя паводле раскопак могільніка Дзіктарай у Анікшчайскім р-не (Літва) і пісьмовых крыніц.*
Тыповы прадстаўнік простага нязнатнага воіна, цалкам пазбаўленага засцерагальнага ўзбраення. Аднак наступальнае ўзбраенне прадстаўлена ў яго досыць добра і ўключае лёгкае кап'ё—суліцу, корд і сякеру.

***C2:** Цяжкаўзброены капійнік Вялікага княства Літоўскага. Другая палова XIV — пачатак XV ст. Рэканструкцыя паводле пячатак Свідрыгайлы (1387) і Вітаўта (1418), пісьмовых крыніц і археалагічных знаходак.*
Рыцар належыць да найвышэйшай палітычнай эліты дзяржавы, можа, з'яўляецца вялікім князем. Забяспечаны перадавым засцерагальным узбраеннем — прылбіцай «псіная пыса» з заслонай на скроневых завесах, платамі ці кірасай, пакрытай багатым кафтанам, і пласцінавым пакрыццём канечнасцей. Наступальная зброя складаецца з цяжкога кап'я тараннага тыпу і палутараручнага мяча. Рыцар выкарыстоўвае рослага капійнічага каня, заходняе сядло з высокімі лукамі і шпоры з доўгім шыпам.

***C3:** Цяжкаўзброены рыцар. Канец XIV — пачатак XV ст. Рэканструкцыя паводле пячатак літоўскіх князёў, пісьмовых крыніц і археалагічных знаходак.*
Дастаткова тыповы прадстаўнік вярхушкі Вялікага княства Літоўскага. Забяспечаны на еўрапейскі манер «псінай пысай» з заслонай на лобнай завесе, платамі і пласцінавымі пакрыццямі канечнасцей паверсе кальчугі. На трохкутным шчыце — герб Міхаіла Заслаўскага (з пячаткі 1386 г.). Меч аднаручны, колючы, рэдкі для Вялікага княства.



***D1:*** *Сярэднеўзброены вершнік. Другая палова XV ст. Рэканструкцыя паводле мініяцюр Радзівілаўскага летапісу і археалагічных знаходак.*
Даволі тыповы камплект коннага капійніка ўключае рагаціну ці ошчап і корд, з засцерагальнага ўзбраення — складанапрафіляваны міндалепадобны шчыт, сферычны шалом і панцыр, які можа дапаўняцца кірасай ці платамі.

***D2:*** *Вершнік рускіх зямель Вялікага княства Літоўскага. Другая палова XV ст. Рэканструкцыя паводле мініяцюр Радзівілаўскага летапісу.*
Ваяр забяспечаны амаль што стандартным рыштункам, які ўключае шалом са шпілем і сцяжком-ялаўцом, надзвычай характэрны для Русі, кальчужны панцыр і акруглы шчыт са спічаста выцягнутай цэнтральнай часткай. Клінковая зброя ў дадзеным выпадку дапаўняецца дубінай у выглядзе сукаватай палкі. Вершнік выкарыстоўвае таксама маскоўскае сядло.

***D3:*** *Пешы алебардыст. Канец XV ст. Рэканструкцыя паводле мініяцюры Радзівілаўскага летапісу, археалагічных знаходак і пісьмовых крыніц.*
Абсалютна тыповы прадстаўнік наёмнай пяхоты ці прыдворнай варты Вялікага княства Літоўскага. Наступальнае ўзбраенне складаецца з алебарды і корда, засцерагальны рыштунак — з гатычнай кірасы ў паўднёванямецкім стылі з наплечнікамі і падбароднікам—«бартам». У якасці шлема можа выкарыстоўвацца капалін, сферычны шалом, ці, як тут, салада.



***E1:** Цяжкаўзброены капійнік. Канец XV ст. Рэканструкцыя паводле мініяцюры Радзівілаўскага летапісу і археалагічных знаходак.*
Рыцар носіць поўную «зброю капійнічую», апранутую паверсе кальчугі, але без металічных чаравікаў. Стылёвая цэласнасць парушаецца выкарыстаннем у камлекце з паўднёванямецкім гатычным даспехам рускага сфераканічнага шалома з ялаўцом, што практыкавалася ў Вялікім княстве Літоўскім нярэдка. Наступальнае ўзбраенне прадстаўлена сякучым «венецыянскім» мячом, які павінен дапаўняцца кап'ём.

***E2:** Цяжкаўзброены капійнік. Канец XV ст. Рэканструкцыя паводле выяўленчых, археалагічных і пісьмовых крыніц.*
Тыповы прадстаўнік цяжкой рыцарскай кавалерыі Вялікага княства Літоўскага, ўзброенага цалкам на заходні манер. Засцерагальнае ўзбраенне прадстаўлена поўным гатычным даспехам, апранутым на кальчугу, у камплекце з глухой саладай. У якасці сродкаў нападзення служаць цяжкое кап'ё тараннага тыпу і сякучы «венецыянскі» меч. Рыцар належыць да феадальнай знаці, пра што сведчыць не толькі дарагое ўзбраенне, але і каштоўны конь — рослы і масіўны, спецыяльна прызначаны для цяжкаўзброеных вершнікаў і праламывання непрыяцельскіх шыхтоў. Сядло капійнічае, з высокімі лукамі, шпоры з вельмі доўгім шыпам.



***F1:** Рыцар у нарматыўным узбраенні. Канец 20-х гг. XVI ст. Рэканструкцыя паводле каралеўскай і соймавай ухвалы 1528 г., земскай ухвалы і Статута ВКЛ 1529 г.*
Экіпіроўка ваяра цалкам адпавядае нарматыўным патрабаванням і складаецца з кальчужнага панцыра, паверсе якога апранута «сукня», прылбіцы (у дадзеным выпадку салады з заслонай ад «армэ»), дрэва, павезы, палутараручнага мяча і дзвюх шпор.

***F2:** Гусар. Першая палова XVI ст. Рэканструкцыя паводле карціны «Бітва пад Оршай».*
Вершнік забяспечаны тыповым венгерскім гусарскім рыштункам; аснову яго складаюць кап'ё з прапорцам, на якім змешчаны рыцарскі крыж Св.Юр'я, ранняя венгерская шабля і характэрная асіметрычная гусарская тарча. Строй ваяра і рыштунак каня таксама належаць да тыпова гусарскіх.

***F3:** Знатны феадал з паўднёвых зямель Вялікага княства Літоўскага. Пачатак XVI ст. Рэканструкцыя паводле гравюры з брашуры А.Крыцкага 1515 г. і археалагічных знаходак.*
Магнат, верагодна князь, у рыштунку якога спалучаюцца элементы гусара і цяжкога кавалерыста. Да гусарскіх элементаў належаць венгерскае сядло і прашытыя ватаваныя паперсь і пахвы, дапоўненыя тыповымі для цяжкой рыцарскай кавалерыі металічным нагалоўнікам і аховай шыі. Да капійнічага рыштунку належыць таксама поўны пласцінавы даспех, дапоўнены некамплектным архаічным стажковым шаломам. Наступальнае ўзбраенне складаецца з пернача і палутараручнага колючага мяча з бакавым ахоўным колкам.



8 Зак. 2302



***G1:*** *Пешы капійнік. Другая палова XVI ст. Рэканструкцыя паводле інвентару Брэсцкага замка 1566 г.*
Пешы драб, верагодна наёмнік, мае стандартнае для капійнікаў узбраенне — трохчвэрцевы даспех і закрыты штурмгаб, замест якога можа выкарыстоўвацца адкрыты штурмгаб ці «армэ». Не зусім тыповым з'яўляецца толькі партызана, прысутнасць якой абумоўлена спецыфікай асартыменту брэсцкага арсенала.

***G2:*** *Вершнік, узброены «па-казацку». Сярэдзіна XVI ст. Рэканструкцыя паводле карціны «Бітва пад Оршай» і пісьмовых крыніц.*
Прадстаўнік аднаго з найбольш распаўсюджаных відаў кавалерыі забяспечаны тыповым казацкім рыштункам, аснову якога складае сагайдак, дапоўнены ў дадзеным выпадку рагацінай і шабляй. Засцерагальнае ўзбраенне — аблегчаная прылбіца і ватаваны зіпун, пад які можа быць надзеты панцыр. Сядло лёгкае, маскоўскае, акруглыя страмёны тыповыя для лёгкай кавалерыі.

***G3:*** *Воін у маскоўска-турэцкім узбраенні. XVI ст. Рэканструкцыя паводле пісьмовых крыніц.*
Заможны ваяр у трафейным ці набытым усходнім рыштунку, магчыма знатны перабежчык з Маскоўскай дзяржавы. Мае амаль максімальны камплект засцерагальнага ўсходняга ўзбраення, які складаецца з кальчугі, зярцалаў, «наручаў маскоўскіх», «накаленкаў маскоўскіх» і «прылбіцы маскоўскай» (місюркі), паверсе якой можа апранацца сфераканічны шалом. Наступальнае ўзбраенне ў дадзеным выпадку абмяжоўваецца татарскай шабляй.



***H1:** Знатны воін, узброены «па-нямецку». Другая палова XVI ст. Рэканструкцыя паводле даспешнага гарнітура Мікалая Радзівіла Чорнага і пісьмовых крыніц.*

Прадстаўнік вышэйшай палітычнай эліты Вялікага княства Літоўскага. Мае поўны цяжкі капійнічы даспех, але ў камплекце не з «армэ», а з нетыповым для такіх даспехаў штурмгабам, а таксама даспех на каня. Увесь засцерагальны камплект шыкоўна аздоблены. Наступальнае ўзбраенне складаецца з пары пісталетаў, характэрных для рэйтараў, і цяжкога «дрэва», тыповага для капійнікаў, а таксама шпагі.

***H2:** Жамойцкі апалчэнец, XVI ст. Рэканструкцыя паводле пісьмовых крыніц і археалагічных знаходак.*

Тыповы прадстаўнік жамойцкіх харугваў паспалітага рушэння Вялікага княства Літоўскага, аснову ўзбраення якіх складалі вошчапы. Аднак яго асаблівасцю з'яўляецца адсутнасць вельмі папулярнага на Жамойці корда, замест якога воін мае сякеру.

***H3:** Гусар. Другая палова XVI ст. Рэканструкцыя паводле рэчавых і пісьмовых крыніц.*

Прадстаўнік добра экіпіраваных кавалерыстаў, забяспечаны кальчугай, паверсе якой апрануты паўдаспех з поўнай аховай рук і цэльнай кірасай (збраёўня Радзівілаў у Нясвіжы). Галаву рыцара бароніць паўднёванямецкі шышак (зборы Тышкевічаў у Лагойску). Ён узброены гусарскай шабляй, якая павінна дапаўняцца кап'ём і тарчай, аднак, у прынцыпе, падобны засцерагальны камплект мог выкарыстоўвацца і ў іншых відах кавалерыі.

# Структура войска Вялікага княства Літоўскага ў другой палове XIV — канцы XVI ст.



зброеныя сілы Вялікага княства Літоўскага ў другой палове XIV—XVI стст. у асноўным складаліся з кавалерыі. Да пачатку XVI ст. агульнадзяржаўнай рэгламентацыі баявога рыштунку ваяроў не існавала, нормы рыцарскай службы ў кожным канкрэтным выпадку залежалі ад двухбаковага пагаднення паміж сеньёрам і васалам. У XV— XVI стст. найбольш пашыранай была такая форма мабілізацыі ваенна-служылага люду, як паспалітае рушэнне (*expeditio generales*). Яна прадугледжвала асабісты выезд на вайну феадала разам з ваярамі, колькасць якіх залежала ад велічыні ягонага маёнтка і колькасці падданых. Ужо ў другой палове XIV—XV стст. у складзе паспалітага рушэння Вялікага княства Літоўскага можна заўважыць дзве асноўныя катэгорыі ваяроў — капійнікаў і стральцоў, якія ў той час былі характэрны для войск большасці краін Еўропы.



Гусар Рэчы Паспалітай. Гравюра Абрахама Брайна. 1576 г.

Суадносіны капійнікаў і стральцоў у сярэдневяковых еўрапейскіх арміях былі цесна звязаны з камплектацыяй драбнейшых арганізацыйных адзінак у выглядзе т.зв. «кап'я», якое складалася з аднаго цяжкаўзброенага рыцара, забяспечанага дрэўкавай зброяй і спецыялізаванага выключна ў рукапашным баі, а таксама некалькіх лёгкаўзброеных стральцоў.* Нягледзячы на існаванне пэўных стандартаў у камплектацыі коп'яў, іх рэальны склад залежаў найперш ад фінансавых магчымасцей землеўладальнікаў, прычым найменшая уніфікацыя назіралася ў колькасці стральцоў. Сустракаліся таксама коп'і, складзеныя з адных капійнікаў без стральцоў альбо нават толькі са стральцоў, прычым у апошнім выпадку выкарыстанне тэрміну «кап'ё» выглядае вельмі ўмоўным і выступае фактычна толькі як даніна традыцыі.

Коп'і-почты арганізоўваліся ў буйнейшыя атрады — харугвы, якія выступалі ў якасці асноўных арганізацыйна-тактычных адзінак войска Вялікага княства Літоўскага, таксама як і войск яго галоўнага саюзніка і галоўнага праціўніка — Польшчы і Тэўтонскага ордэна. У Грунвальдскай бітве ўдзельнічала 40 харугваў Вялікага княства, з якіх Длугаш дакладна пералічвае 21. Харугвы арганізоўваліся паводле тэрытарыяльнай прыметы альбо выстаўляліся буйнейшымі землеўладальнікамі. Колькасны склад харугваў залежаў найперш ад мабілізацыйных магчымасцей кожнага рэгіёна ці княскай вотчыны, хоць можна таксама дапусціць існаванне пэўнай стандартызацыі ў камплектаванні гэтых адзінак. Пра гэта сведчыць данясенне комтура Рагнеды комтуру Брандэнбурга і маршалку Ордэна напярэдадні грунвальдскай выправы (14 чэрвеня 1410 г.), у якім сцвярджаецца, што Вітаўт мабілізаваў на 5 тыдняў у Жамойці з кожнага краю па 300 чалавек, якія 13 чэрвеня ўжо рушылі ў паход. Не выключана, што падобная колькасць ваяроў з'яўлялася для харугваў ліцвінскага войска нормай.

Формай баявога шыхтавання кожнай харугвы з'яўлялася звужаная наперадзе калона — клін. Длугаш інфармуе, што падчас маршу саюзных войск да межаў Ордэна ў рамках Вялікай вайны Вітаўт падзяліў сваё войска на кліны (*«cuneos»*) і паставіў у сярэдзіну кожнага кліна слабаўзброеных рыцараў на горшых конях, якіх атачалі іншыя — на мацнейшых конях і выдатна ўзброеныя. Па словах храніста, такія кліны забяспечвалі шчыльнасць шыхтавання, але размяшчаліся на значнай адлегласці адзін ад аднаго. Падобная пабудова войска была добра вядомая ў некаторых краях тагачаснай Еўропы, у прыватнасці ў Германіі і Польшчы. Яе сутнасць заключалася ў размяшчэнні наперадзе калоны, а таксама, верагодна, па яе баках найбольш баяздольных у рукапашнай сутычцы рыцараў — капійнікаў, якія пракладалі дарогу ў непрыяцельскіх шыхтах і падтрымоўваліся стральцамі, страляўшымі з глыбіні калоны навесам, паверх галоў пярэдніх ліній.



Аддзел гусараў (з карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай»). 1530—1535 гг.



Штаб войска Вялікага княства Літоўскага (з карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай»). 1530—1535 гг.



Абоз Вялікага княства Літоўскага (з карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай»). 1530—1535 гг.




Аршанскі замак (з карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай»). 1530—1535 гг.

Інфармацыя Длугаша аб размешчаных у сярэдзіне ліцвінскіх кліноў недастаткова ўзброеных ваярах на горшых конях і акружаўшых іх рыцарах, забяспечаных добрымі коньмі і выдатным узбраеннем, а таксама звесткі аб існаванні ў Вялікім княстве Літоўскім капійнікаў і стральцоў дазваляюць дапусціць бытаванне тут цяжкой і лёгкай кавалерыі, якая адрознівалася не толькі наступальнай зброяй, але і комплексам ахоўных сродкаў і якасцю выкарыстоўваемых коней. Эліту войска ў такім разе мусілі б складаць цяжкаўзброеныя капійнікі на вынослівых конях і ў найбольш надзейным засцерагальным узбраенні, як тое мела месца на Захадзе. Разам з тым, як паказваюць даследаванні апошняга часу, погляд на капійнікаў як на рыцараў, пагалоўна «закаваных у сталь», здаецца занадта спрошчаным. Паміж гэтай

катэгорыяй ваяроў і менш элітнымі стральцамі не існавала ў той час дакладнай мяжы — найлепш экіпіраваныя стральцы маглі набліжацца па якасці засцерагальнага ўзбраення да некаторых не самых заможных капійнікаў, аснову баявога касцюма якіх складалі шлем і кальчуга, толькі часткова дапоўненыя пласцінавымі элементамі, у тым ліку дэталямі пакрыцця рук і ног. Калі ж гаварыць пра войска Вялікага княства Літоўскага, то насычанасць яго ўзбраеннем была, як падаецца, яшчэ ніжэйшай, чым у бліжэйшых заходніх суседзяў гэтай дзяржавы, на што звярталі ўвагу сучаснікі.



Аддзел цяжкіх капійнікаў (з карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай»). 1530—1535 гг.



Даводца капійнікаў (з карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай»). 1530—1535 гг.



Пяхота Вялікага княства Літоўскага на маршы (з карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай»). 1530—1535 гг.

Важнай асаблівасцю войска Вялікага княства з'яўлялася прысутнасць тут узбраення рускага паходжання, асабліва прымаючы пад увагу тэрытарыяльную экспансію гэтай дзяржавы на ўсход у XIV — пачатку XV ст. і ўключэнне вайсковых адзінак толькі што далучаных рускіх тэрыторый у вайсковую сістэму краіны. Аднак у часы павелічэння тэрыторыі Вялікага княства за кошт рускіх зямель шляхі ў эвалюцыі сродкаў вайны на захадзе і ўсходзе Еўропы яшчэ не паспелі







Гусары (з карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай»). 1530—1535 гг.

кардынальна разысціся. На Русі досыць шырока выкарыстоўваліся кальчужныя і пласцінкавыя даспехі, коп'і, арбалеты, шчыты, мячы і г.д., добра вядомыя ў краях лацінскай Еўропы. З XV ст. ваенна-тэхнічнае аблічча войск Усходняй Русі ўсё больш вызначаецца стаўкай на ўзбраенне арыентальнага паходжання, пераважна татарскага ці турэцкага. Трапляла яно і на землі Вялікага княства Літоўскага, але не мела тут такога важнага значэння.



Афіцэры цяжкаўзброенай кавалерыі (з карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай»). 1530—1535 гг.



Аддзел Радзівілаўскай цяжкой кавалерыі (з карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай»). 1530—1535 гг.

Адметную частку войска Вялікага княства Літоўскага, прынамсі пачынаючы з часоў Вітаўта, складалі татары. Татарскае ўзбраенне XIV—XV стст. на сённяшні дзень даволі добра вывучана, прычым даследаванні абвяргаюць погляд на татарскіх ваяроў як на выключна лёгкіх коннікаў. Даказана, між іншым, што ў залежнасці ад сацыяльнай прыналежнасці і матэрыяльных магчымасцей татары ўжывалі вельмі шырокі спектр узбраення, у тым ліку засцерагальнага, што дазваляе выдзеліць у іх асяроддзі лёгкую і цяжкую кавалерыю, хаця дакладную мяжу паміж першай і другой правесці цяжка. Да ахоўных сродкаў, вядомых татарам у другой палове XIV — першай палове XV ст., можна аднесці кальчугу, ламелярны і ламінарны даспехі, пласцінкі якіх выраблялiся як з жалеза, так і з цвёрдай скуры, камбінаваныя віды баявых пакрыццяў, у тым ліку кальчужна-пласцінкавыя, мяккія launch неметалічныя даспехі з лямцу, скуры ці тканіны, часам падбітыя металічнымі пласцінкамі, што набліжала іх да еўрапейскіх платаў. Бытавалі металічныя пакрыцці канечнасцей і шчыты акруглай формы. Шлемы пераважна мелі сфераканічныя абрысы, хаця выкарыстоўваліся і нізкія яйкападобныя нагалоўі з кальчужнай аховай твару. Практыкавалася таксама пакрыццё даспехам баявых коней.



Гусары на адпачынку (з карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай»). 1530—1535 гг.



9 Зак. 2302



Пераправа артылерыі (з карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай»). 1530—1535 гг.



Кавалерыя, узброеная «па-казацку» (з карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай»). 1530—1535 гг.

Асноўным відам наступальнага ўзбраення татараў з'яўляўся складаны лук, які мелі ўсе ваяры. Досыць шырока ўжываліся коп'і, асабліва цяжкаўзброенымі ваярамі, аднак капійнікаў, у еўрапейскім разуменні гэтага слова, татары не ведалі, паколькі спалучэнне дрэўкавай зброі з лукам сведчыць хутчэй не аб капійнічым, а аб універсальным характары ўзбраення ўладальніка. Комплекс наступальных сродкаў дапаўняла клінковая зброя, у падаўляючай большасці шаблі, абухова-ўдарная зброя і арканы.

У цэлым традыцыйны набор узбраення ваяроў Вялікага княства Літоўскага можна трактаваць як дастаткова еўрапейскі, хаця і архаічны з пункту гледжання найноўшых дасягненняў тагачаснай тэхнічнай думкі Захаду. У адрозненне ад зямель Маскоўскай Русі, якая не сутыкалася непасрэдна з

войскамі лацінскай Еўропы, Вялікае княства Літоўскае мела з імі справу пастаянна, што не толькі патрабавала імкнення да пэўнага стандарту баявога рыштунку, але і стварала магчымасці для здабыцця заходняга ўзбраення ў выглядзе трафеяў. Шматлікія факты выкарыстання трафейнай заходняй зброі ўяўляюцца вельмі важнымі, паколькі сведчаць аб тым, што яна не разглядалася ў Вялікім княстве Літоўскім як нешта чужароднае, абсалютна непрымальнае як з пункту гледжання адметнай вайсковай традыцыі, так і па ідэалагічных меркаваннях.



Гусары (з карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай»). 1530—1535 гг.

Гатоўнасць войска Вялікага княства Літоўскага да запазычання заходніх мадэлей узбраення яскрава праявілася таксама ў імпарце вайсковага рыштунку з Польшчы, які ў шырокіх маштабах разгарнуўся пасля заключэння Крэўскай уніі і знайшоў адлюстраванне ў наратыўных крыніцах і рахунках польскага каралеўскага двара. У асобных выпадках польскія майстры імкнуліся патрапляць дастаткова спецыфічным, арыентальным густам заказчыкаў, аднак у сваёй масе, як падаецца, пастаўлялася тыповае ўзбраенне, выкананае па заходняму стандарту, асабліва ў выпадках высылкі буйных партый зброі. Разам з тым, як сведчаць рахункі, далёка не ва ўсіх выпадках на землі Вялікага княства Літоўскага завозіліся выключна найноўшыя элементы ўзбраення, рэпрэзентаваўшыя апошнія дасягненні заходняй тэхнічнай думкі, такія, напрыклад, як пласцінавыя даспехі ці агняпальная зброя. Сярод пастаўляемай амуніцыі траплялiся і дастаткова шэраговыя рэчы — адкрытыя шлемы-шаломы альбо колкавыя панцыры, якія не былі нечым незвычайным на ўсходнееўрапейскіх землях, прычым





Капiйнікі на адпачынку (з карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай»). 1530—1535 гг.



Вайсковыя музыкі Вялікага княства Літоўскага (з карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай»). 1530—1535 гг.



Група пешых стральцоў (з карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай»). 1530—1535 гг.



Войскі Вялікага княства Літоўскага ў засадзе (з карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай»). 1530—1535 гг.



Аддзел цяжкой кавалерыі Вялікага княства Літоўскага (з карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай»). 1530—1535 гг.



Даводца капійнікаў (з карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай»). 1530—1535 гг.

камплект набытага такім чынам асобнымі ліцвінамі ўзбраення мог быць даволі сціплым. Відавочна, што даўзбраенне вялікакняжацкага войска за кошт польскага імпарту мела на мэце не толькі забеспячэнне вяроў Вялікага княства передавой еўрапейскай зброяй, але і задавальненне вострай патрэбы ва ўзбраенні наогул.

Высветліць, з якой інтэнсіўнасцю ішло насычэнне войска Вялікага княства Літоўскага заходняй зброяй, на сённяшні дзень не ўяўляецца магчымым. Мелі яе, відавочна, прадстаўнікі палітычнай эліты дзяржавы, аб чым сведчаць выявы на пячатках літоўскіх князёў канца XIV — першай паловы XV ст., дзе адлюстраваны, між іншым, пласцінавыя даспехі, шлемы-бascінеты, прылбіцы, конскія папоны-«кропежы». Ужо на Грунвальдскім полі ўзбраенне, аналагічнае заходняму не толькі па баявых якасцях, але і па знешнім выглядзе, не з'ўлялася ў харугвах Вітаўта, як падаецца, нечым выключна рэдкім. На гэта ўказвае адзін з эпізодаў бітвы, калі палякі нейкі час прымалі атакуючыя крыжацкія рэзервы за ліцвінаў, якія вярталіся на поле бою, і толькі нападзенне ордэнскага даводцы на Дабяслава Алясніцкага, выехаўшага яму насустрач, выявіла памылку.

Калі да сярэдзіны XV ст. у аснове выдзялення катэгорый вяроў Вялікага княства Літоўскага ляжала наступальная зброя, то з сярэдзіны гэтага стагоддзя на першае месца выступае новы прынцып — характар засцерагальных сродкаў. У адпаведнасці з ім выдзялялася тры мадэлі — даспешная, панцырная і шчытная. Прычынай выдзялення падобных катэгорый было імкненне да стварэння рэальных падстаў для падзелу кавалерыі на цяжкую і лёгкую. Праўдападобна, што пры гэтым улічваліся распрацоўкі вядомага польскага тэарэтыка арганізацыі войска Яна Астрарога, зробленыя недзе паміж 1447 г. і 1460 г. Ён удасканаліў ранейшую капійніча-стрэльчую сістэму і лічыў, што капійнік павінен мець поўны даспех, паўкапійнік — кальчугу, нагруднік, абойчык, рукавіцы і шлем, стралец — шлем, панцыр і ручніцу ці арбалет з 20 балтамі. Асобна вылучаў Астрарог таксама т.зв. фехтавальшчыкаў, комплекс узбраення якіх мусіў складацца са шлема, шчыта і мяча.

Нягледзячы на фіксацыю ў дакументах другой паловы XV ст. катэгорый ваяроў, адметных па характары засцерагальнага ўзбраення, большасць надаўчых актаў у вызначэнні норм вайсковай службы па-ранейшаму апелявала да традыцый, якія маглі быць трактаваныя досыць шырока. Выдзеліць усе магчымыя мадэлі ўзбраення, бытаваўшыя ў гэты час у Вялікім княстве, не ўяўляецца магчымым, але, верагодна, сітуацыя тут у нечым нагадвала польскае паспалітае рушэнне, дзе пры існаванні ваяроў, забяспечаных дрэўкавай зброяй, зброяй далёкага бою альбо толькі мячамі, налічвалася больш за дзесяць падвідаў кавалерыі, якія адрозніваліся найперш характарам ахоўных сродкаў, прычым некаторыя вершнікі не мелі іх зусім.

Першыя спробы рэгулявання ўзбраення ваяроў Вялікага княства Літоўскага ў маштабах усёй дзяржавы былі зроблены даволі позна — у пачатку XVI ст. На Наваградскім сойме 1502 г. «король его милость Александр с прелаты и паны-радами своими то был установил, иж кождый князь, и пан, и дворянин, и земянин мел з именя своего з десяти служоб пахолка у зброи на кони з древцем выправити...» Такім чынам, у якасці базавай мадэлі паўнавартага вершніка быў выбраны цяжкаўзброены капійнік. Падобны выбар, як уяўляецца, з'явіўся вынікам агульнай тэндэнцыі да «манументалізацыі» кавалерыі, якая назіралася на працягу ўсяго папярэдняга стагоддзя. Працэс пашырэння пласцінавага даспеха, які, у прынцыпе, і акрэсліваўся тэрмінам «зброя» ў вузкім значэнні гэтага слова, праходзіў дастаткова шпаркімі тэмпамі, выцясняючы з ужытку традыцыйныя наборныя канструкцыі. Апошнія ўжо на пачатку XVI ст. фігуруюць вельмі рэдка і маюць, верагодна, пераважна ўсходняе паходжанне. Трохі часцей фіксуюцца пісьмовымі крыніцамі таксама арыентальныя цягіляі — ватаваныя кафтаны, шырока ўжываныя ў Маскоўскай дзяржаве, хаця па колькасці ўзгадак яны зноў жа саступаюць пласцінавым даспехам і панцырам.



Пяхота Вялікага княства Літоўскага ў бітве (з карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай»). 1530—1535 гг.

У канцы другога дзесяцігоддзя XVI ст. адбываецца карэктыроўка нарматыўнага ўзбраення ваяроў у бок яго аблягчэння. Каралеўская і соймавая ўстава за 1528 г. аб абароне земскай абавязвала кожнага феадала Вялікага княства Літоўскага «с кождых осми служоб людей ставити пахолка, на добром кони, во зброи, з древом, с прапором, на котором бы был панцер, прылбица, меч або корд, сукня цветная, павеза и остроги две». Аналагічны камплект пацвярджаўся земскай ухвалай і I Статутам Вялікага княства Літоўскага 1529 г.

Аблягчэнне эталоннага ўзбраення за кошт высоўвання на першы план панцыра замест масіўнага капійнічага даспеха было ў пэўнай ступені звязана з перанясеннем цяжару ваенных дзеянняў з захаду на ўсход дзяржавы, дзе ваярам Вялікага княства давялося мець справу з лёгкім мабільным праціўнікам. У барацьбе з ім цяжкая кавалерыя была эфектыўнай толькі падчас лабавой атакі. Між тым арыентальная тактыка якраз і заключалася ва ўхіленні ад падобных атак пры аддаванні перавагі дыстанцыйнаму бою і вымотванню праціўніка. Цяжкі досвед ужо першых сутычак краін Ягелонскай кааліцыі з прадстаўнікамі ўсходняй мілітарысцкай традыцыі прымусіў звярнуцца да пошуку адэкватных мадэляў узбраення, прыдатных да вайны ў новых абставінах. Лічыцца, што распаўсюджанне ў Вялікім княстве Літоўскім і ў Польшчы кавалерыі, узброенай шчытамі і коп'ямі, вядзе свой пачатак ад сербска-венгерскай традыцыі, дзе ўжо ў другой палове XV ст. шырока выкарыстоўваліся лёгкія вершнікі — гусары, якія выдатна зарэкамендавалі сябе ў змаганні з туркамі. Гусары, прынамсі, на першым этапе свайго існавання не мелі засцерагальнага ўзбраення, апроч спецыфічнай асіметрычнай тарчы. Галоўнымі элементамі наступальнага ўзбраення гусараў служылі пустацелае кап'ё з «куляй» замест шчытка і шабля. З'яўленне гусарыі ў Літве звычайна датуецца даследчыкамі пачаткам XVI ст. Мадэль,

зацверджаная Статутам, можна назваць хутчэй не гусарскай, а сярэднекапійнічай, аднак неўзабаве яна трансфармуецца на гусарскі манер і набывае характэрныя атрыбуты.

З'яўленне ў Вялікім княстве агульнадзяржаўных актаў, рэгулявальных нормы вайсковай службы, не азначала пераходу да поўнай уніфікацыі ўзбраення. Пра гэта сведчыць значная разнастайнасць як наступальных, так і засцерагальных сродкаў, якая мела месца ў рэальным жыцці. Апроч рыштунку, аналагічнага статутнаму, засцерагальнае ўзбраенне было прадстаўлена пласцінавымі, пласцінкавымі і камбінаванымі даспехамі і паўдаспехамі, кірасамі, а таксама кальчужнымі панцырамі і неметалічнымі даспехамі. У залежнасці ад характару наступальнага ўзбраення кавалерыя паранейшаму падзялялася на капійнічую і стрэльчую.



Атака лёгкай кавалерыі Вялікага княства Літоўскага (з карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай»). 1530—1535 гг.



Гусары (з карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай»). 1530—1535 гг.



Атака лёгкай конніцы Вялікага княства Літоўскага (з карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай»). 1530—1535 гг.

У камплектацыі почтаў першай паловы XVI ст. выдзялялася некалькі варыянтаў. У шэрагу выпадкаў яны мелі структуру, набліжаную да класічнага «кап'я» ранейшых часоў, і складаліся з аднаго цяжкога капійніка, найчасцей самога даводцы атрада, а таксама некалькіх лягчэйшых вершнікаў, прычым даводца, як правіла, меў яшчэ і запаснога каня. Да другой групы належаць почты, складзеныя з кавалерыстаў у прыблізна аднолькавым, лёгкакапійнічым (гусарскім) рыштунку. Сустракаліся таксама почты, у якіх усе камбатанты належалі да гусарскай мадэлі, апроч самога даводцы, забяспечанага лягчэйшым узбраеннем. У некаторых атрадах налічвалася па некалькі камбатантаў з розным узбраеннем, у суадносінах якіх цяжка заўважыць якую-небудзь сістэму. І, нарэшце, значны працэнт войска складалі ваяры, якія не ў стане былі выводзіць уласныя почты і нават забяспечыць неабходным статутным рыштункам сябе самога.

Як сведчаць пісьмовыя крыніцы другой паловы XVI ст., у Вялікім княстве Літоўскім не толькі існавалі розныя мадэлі ўзбраення кавалерыстаў, але некаторыя з іх нават мелі спецыяльныя акрэсленні. Сярод іх асобна вылучаліся гусары, казакі, «бруншвікі» і «кашубы». Для гусарскай мадэлі, якая выводзіцца з сербска-венгерскай традыцыі, было характэрна, як ужо адзначалася, спалучэнне спецыфічнага гусарскага кап'я са шчытом. Асноўнай рысай выдзялення ў асобную катэгорыю ваяроў, узброеных «па-казацку», была наяўнасць лука, які мог дапаўняцца дрэўкавай зброяй у выглядзе рагаціны ці ошчапа. Такім чынам, казацкая кавалерыя выступае тут у дзвюх мадыфікацыях — як стрэльчая і як універсальная, што можна было заўважыць у татарскай конніцы яшчэ ў XIV— XV стст.

У сувязі з гэтым можна меркаваць, што казацкі рыштунак быў звязаны менавіта з татарскай традыцыяй, тым больш што і тэрмін «казак», і сама традыцыя «казакавання», ды і першыя казакі на землях Вялікага княства Літоўскага знаходзіліся з татарамі ў самай цеснай сувязі.



Атака лёгкай конніцы Вялікага княства Літоўскага (з карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай»). 1530—1535 гг.

Відавочна мясцовыя карані мела мадэль узбраення «па-кашубску», якая ў якасці асноўнай наступальнай зброі прадугледжвала рагаціну ці ошчап. Як сведчаць крыніцы XVI ст., ваяры, асноўнай наступальнай прыладай якіх з'яўлялася аблегчаная дрэўкавая зброя, былі прадстаўлены на ўсёй тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага, аднак найбольш папулярнай была падобная мадэль у жамойцкіх харугвах. Можна таксама адзначыць, што кароткія вошчапы—суліцы лічыліся традыцыйнай зброяй літоўскіх ваяроў і ў больш раннія часы, у XIV — пачатку XV стст.



Татары Вялікага княства Літоўскага (з карціны ананімнага мастака «Бітва пад Оршай»). 1530—1535 гг.

«Па-бруншвіцку» ці «па-нямецку» ўзбройваліся экіпіраваныя на заходні лад рэйтары ці аркабузеры, забяспечаныя ручной агняпальнай зброяй. Аднак у шэрагу выпадкаў падобныя тэрміны выкарыстоўваліся ў другой палове XVI ст. у дачыненні да цяжкіх капійнікаў. Нельга таксама цалкам выключыць магчымасці спалучэння ў «нямецкім» рыштунку дрэўкавай зброі з агняпальнай.

Як бачна, у аснове выдзялення вышэйназваных катэгорый ваяроў ляжаў характар наступальных сродкаў; засцерагальнае ўзбраенне калі і прымалася пад увагу, то мела другараднае значэнне. Прынамсі, кожная катэгорыя вершнікаў магла ўжываць розныя віды аховы тулава — «зброі бляхавыя», панцыры, неметалічныя даспехі ці не ўжываць наогул ніякага баявога пакрыцця цела. Розныя фінансавыя магчымасці феадалаў Вялікага княства Літоўскага часам прыводзілі да выстаўлення імі ваяроў, якіх цяжка залічыць да якой-небудзь унармаванай катэгорыі, фіксуемай у крыніцах пад асобным тэрмінам. Камбатанты магнацкіх почтаў былі выдатна ўзброеныя нават з пункту гледжання перадавых еўрапейскіх армій і маглі спалучаць элементы рыштунку розных катэгорый. Аднак з імі суседнічалі сціплыя па сваім дастатку асобы з вельмі скудным асартыментам баявых сродкаў. Апроч таго, сустракаліся выпадкі адсутнасці ў ваяроў коней і любой зброі ў поўным сэнсе гэтага слова, што моцна адбівалася на характары ўзброеных сіл у цэлым. Падобная карціна можа праліць святло на досыць скептычныя адносіны да матэрыяльна-тэхнічнага стану літоўскага войска спачатку з боку рыцараў Тэўтонскага ордэна, а пасля і з боку палякаў. Можна меркаваць, што менавіта слабая забяспечанасць значнай часткі ліцвінаў зброяй наогул, а не яе нібыта ўсходні характар стваралі для войска Вялікага княства рэпутацыю недастаткова ці, прынамсі, лёгкаўзброенага.

Парушэнне аднатыпнасці ўзбраення войска Вялікага княства Літоўскага вынікала не толькі з розных фінансавых магчымасцей феадалаў, але і з рэгіянальнай спецыфікі. Дакументы XVI ст. адзначаюць, у прыватнасці, асаблівую папулярнасць у Жамойці кароткіх коп'яў, якія адзначаліся



Бітва пад Оршай. Гравюра з брашуры Анджэя Крыцкага. 1515 г.

замежнымі крыніцамі ў якасці тыповай зброі літоўцаў яшчэ ў XIV ст. На Украіне і поўдні Беларусі атрымала перавагу казацкая мадэль. Тут да таго ж назіраліся і іншыя праявы ўсходніх уплываў, напрыклад дамінаванне шаблі, тады як на Падляшшы асноўнай клінковай зброяй з'яўляўся меч, а ў Літве і большасці беларускіх паветаў — корд.

Значна больш роўным было ўзбраенне наёмнікаў, уваходзіўшых у склад войска Вялікага княства Літоўскага. Значэнне наёмных войск асабліва ўзрасло ў XVI ст. Менавіта найм, пераважна на тэрыторыі Польшчы, быў асноўнай крыніцай забеспячэння войска Вялікага княства дабротнай пяхотай. У ранніх пяхотных ротах, камплектаваных у 70-х гг. XV ст., выдзяляюцца дзве катэгорыі драбаў — павезнікі, узброеныя вялікімі пяхотнымі шчытамі, і стральцы, забяспечаныя арбалетамі ці ручной агняпальнай зброяй. У канцы гэтага стагоддзя сярод пехацінцаў з'яўляюцца таксама капійнікі ў «зброях капійнічых» і, такім чынам, структура пяхоты максімальна набліжаецца да той, якая была прапанавана Астрарогам у дачыненні кавалерыі. У XVI ст. атрымалі распаўсюджанне роты, складзеныя з капійнікаў і стральцоў альбо капійнікаў, павезнікаў і стральцоў, прычым у абодвух выпадках стральцы складалі большасць камбатантаў.

У 60-х гг. XVI ст. пехацінцы з'яўляюцца і ў складзе паспалітага рушэння, паклаўшы канец яго чыста коннаму (калі не лічыць убогай шляхты) характару. На Віленскім сойме 1563 г. і Гродзенскім сойме 1567 г. была прынята пастанова, паводле якой у почтах землеўладальнікаў на двух вершнікаў мусіў прыпадаць адзін драб з ручніцай і з мячом ці кордам, альбо з рагацінай і сякерай. Аднак, як і ў выпадку з вершнікамі, поўнай уніфікацыі ўзбраення пехацінцаў на практыцы дасягнуць не ўдалося.

Падсумоўваючы, можна адзначыць, што, нягледзячы на дынаміку крытэрыяў выдзялення катэгорый ваяроў на працягу другой паловы XIV — XVI стст., у структуры войска Вялікага княства Літоўскага назіралася пэўная пераемнасць. Найбольш яна выявілася ў падзеле войска на капійнікаў і стральцоў, існаваўшым да сярэдзіны XV ст. «*de jure*», а ў далейшым — «*de facto*». Прычым гэты падзел тычыўся як кавалерыстаў, так і пехацінцаў. У другой палове XV ст. была зроблена спроба выкарыстання іншага крытэрыя, які прадугледжваў градацыю засцерагальнага ўзбраення, аднак ён не адкідаў, а толькі дапаўняў і рабіў лагічна больш завершанымі патрабаванні да згаданых катэгорый збройнага люду. Прынцыпы другой паловы XV ст. былі, у сваю чаргу, адсунуты ў XVI ст., асабліва пасля 1529 г., калі была прапанавана адзіная мадэль узбраення. На практыцы, аднак, гэты крок азнаменаваў рэгламентацыю толькі мінімуму засцерагальных сродкаў, ды і тое не ва ўсіх выпадках. Традыцыі папярэдняга часу, якія тычыліся выдзялення мадэляў узбраення, працягвалі існаваць і нават былі замацаваны ў вайсковай лексіцы. Варта падкрэсліць, што кожны з чатырох «афіцыйных» відаў кавалерыі другой паловы XVI ст. так ці іначай мае аналагі ў папярэднія часы.

# Археалагічныя знаходкі апошняга часу ў старадаўнім Нясвіжы

З усіх збораў узбраення на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага найбольшай славай і рэпрэзентатыўнасцю па праву карысталася збраёўня князёў Радзівілаў у Нясвіжы. Яшчэ ў канцы XVI ст. асобныя экземпляры баявога рыштунку з Нясвіжа трапілі ў шэраг замежных збораў. I цяпер узоры радзівілаўскага ўзбраення займаюць заўважальнае месца ў вядучых музеях свету. На жаль, у выніку аўкцыёнаў, праводзімых вядомай лонданскай фірмай «*Christies*» у 1926—1927 гг., за межы Беларусі былі вывезены найбольш вялікія партыі сярэдневяковай зброі.

Захаваліся каталогі згаданых аукцыёнаў, адзін з якіх прапануецца ўвазе чытача. На жаль, у назву каталога ўкралася памылка. Тут адзначана, што зброя належала «рускаму прынцу». Памылка, як падаецца, была свядомай і выклікана ўзросшай увагай еўрапейскай і сусветнай грамадскасці да культурнай спадчыны паслярэвалюцыйнай Расіі. Тым не менш каталог вызначаецца вялікай падрабязнасцю і дазваляе ўявіць, пра што ў кожным канкрэтным выпадку ідзе гаворка. На палях каталога маюцца запісы ад рукі, якія фіксуюць абставіны набыцця зброі канкрэтнымі пакупнікамі.

Аднак, на вялікае шчасце, рэшткі радзівілаўскай калекцыі выпадкова захаваліся ў замку. Іх выяўленню паспрыяла трагічная падзея — пажар замка 2002 г. Падчас разбору пагарэлых канструкцый былі выяўлены элементы засцерагальнага ўзбраення XVI—XVII стст. Дзякуючы ласкавай згодзе супрацоўнікаў Нясвіжскага гісторыка-культурнага запаведніка гэтыя элементы ўдалося аператыўна зафіксаваць (некаторыя з іх яшчэ ў неачышчаным стане). Увазе чытача прапануецца першая публікацыя гэтых здымкаў.

Невядома, колькі яшчэ такіх сюрпрызаў захоўваюць замкавыя сцены старога Нясвіжа.

1


2


3


4




5


1. Пласціна фольгавага пакрыцця бядра
2—4. Гарлавая частка абойчыка
5. Металічная акоўка павадоў


6


7


8


9


10


11


12

6—8. Падбароднік з абойчыкам ад кірасірскага шлема. Канец XVI — сярэдзіна XVII ст.
9. Манжэт металічнай рукавіцы. XVI ст.
10. Металічная акоўка конскага рыштунку
11. Манжэт металічнай рукавіцы. XVI ст
12. Рэшткі фольгавай спаднічкі пласцінавага даспеха


13


14


15


16


17


18


19


20

13. Рэшткі фольгавай спаднічкі пласцінавага даспеха
14. Манжэт металічнай рукавіцы. XVI ст.
15. Трубчастае пакрыццё рукі ад локця да пляча. XVI ст.
16. Манжэт металічнай рукавіцы. XVI ст.
17. Элемент металічнага пакрыцця каня (?)
18. Манжэт металічнай рукавіцы. XVI ст.
19—20. Металічная акоўка сядла. XVI ст.



21



22



23



24



25



26



27



28

21. Металічная акоўка сядла ў максімільянаўскім стылі. XVI ст.
22. Абойчык. XVI ст.
23—24. Элементы пласцінавай спаднічкі даспеха (ташкі ?)
25. Абойчык. XVI ст.
26. Рэшткі фольгавай спаднічкі пласцінавага даспеха
27. Элемент металічнага пакрыцця каня (?)
28. Манжэт металічнай рукавіцы. XVI ст.

Christie's

## CONDITIONS OF SALE.

I. THE highest Bidder to be the Buyer; and if any dispute arise between two or more Bidders, the Lot so in dispute shall be immediately put up again and re-sold.

II. No person to advance less than 1*s.*; above Five Pounds, 5*s.*; and so on in proportion.

III. In the case of Lots upon which there is a reserve, the Auctioneer shall have the right to bid on behalf of the Seller.

IV. The Purchasers to give in their Names and Places of Abode, and to pay down 5*s.* in the Pound, or more, in part of payment, or the whole of the Purchase-Money, *if required*; in default of which, the Lot or Lots so purchased to be immediately put up again and re-sold.

V. The Lots to be taken away and paid for, whether genuine and authentic or not, with all faults and errors of description, at the Buyer's expense and risk, within Two Days from the Sale; Messrs. Christie, Manson and Woods not being responsible for the correct description, genuineness, or authenticity of, or any fault or defect in, any Lot, and making no warranty whatever.

VI. To prevent inaccuracy in delivery, and inconvenience in the settlement of the Purchases, no Lot can on any account be removed during the time of Sale; and the remainder of the Purchase-Money must absolutely be paid on the delivery.

VII. Upon failure of complying with the above Conditions, the Money deposited in part of payment shall be forfeited; all Lots uncleared within the time aforesaid shall be re-sold by public or private Sale, and the deficiency (if any) attending such re-sale shall be made good by the defaulter at this Sale.

# CATALOGUE.

On TUESDAY, JUNE 14, 1927,

AT ONE O'CLOCK PRECISELY.

*The following have been removed from the Armoury of a RUSSIAN PRINCE, and are the remainder of the Collection, part of which was Sold on June 29, 1926.*

## ARMS AND ARMOUR.

8 — 1 A quantity of tace-plates and garde-de-reins; a yoke; and a quantity of harness irons — Fenton

16 6 — 2 A quantity of 16th Century arm defences, consisting mostly of rere and vambraces and elbow cops — do

5 14 — 3 A miscellaneous collection of interesting fragments, consisting chiefly of fluted shoulder guards, gauntlet cuffs, &c.—*16th Century* — do

1 10 — 4 A miscellaneous collection of fragments, mostly 16th Century, engraved plates, parts of gorgets, &c. — Brown

14. 6. — 5 A 16th Century saddle, of wood covered with parchment, complete with its saddle cloth of tooled leather and stirrup irons—*probably Moorish* — R. T. Turner

6 A saddle, of green velvet, embroidered with gold and silver thread

57. 10 — 7 A FINE MACE, the head formed of eight flanges, each flange having a reinforced lozenge-shaped spike, is mounted to a haft of cylindrical section terminating with a grip of octagonal shape, and mushroom form butt; the entire surface minutely decorated with an arabesque of gold and silver damascene on a russet ground—*probably North Italian, middle 16th Century* — Brown.

B

8 A shirt of chain mail; a mace; and two cartouche cases, of
2 12 6 repoussé metal Brown

9 A peytrel, of bright steel, composed of three plates with recessed borders—*stamped with the Nuremberg armourers'*
37 16 - *guild mark—German, 16th Century* Pollat

10 A Two-Handed Sword, the hilt formed of large drooping
7 7 quillons, with disc-shaped terminals, ring guards and counter guard—*German, middle 16th Century* Fenton

11 A Wheel-Lock Sporting Arquebus, the walnut-wood
7 7 stock is richly inlaid with buck-horn engraved with animals of the chase—*Austrian Tyrol, circa 1550* Russell

12 A 16th Century wheel-lock gun, the stock of rose-wood pro-
10 10 fusely inlaid with engraved mother-o'-pearl and buck-horn Joubert

13 A sporting cross-bow, the tiller, inlaid with buck-horn
23 2 engraved with hunting subjects, is equipped with a hinged sight of engraved metal—*Austrian Tyrol, 16th Century* Andrade

14 A Peytrel, of bright steel, formed of three plates assembled by
35 14 means of hinged staples and thumb-screws, the plates finely moulded to the form of the horse's breast are plain with recessed border bands—*stamped with the Nuremberg guild mark—German, circa 1520* Fenton

15 A Circular Shield or Rondache, of bright steel, with facetted border and steel studs for retaining its lining;
14 14 from the centre protrudes a spike of octagonal section—*stamped with an armourer's mark—probably German, late 16th Century* Andrade

16 A High-Comb Morion, richly etched with a strap ornamenta-
9 9 tion encircling medallion portraits and military trophies upon a granulated field—*North Italian, late 16th Century* Fenton

17 An Archer's Pavois, of pine-wood, decorated with a painted device, an eagle with wings displayed, sable, upon its
115 10 breast a shield charged with a coat-of-arms; the inside of the pavois is lined with parchment—*probably Bavarian, late 15th Century* Block Bobbé

18 A peytrel, of bright steel, composed of three plates with
36 15 recessed borders—*stamped with the Nuremberg armourers' guild mark—German, 16th Century* Brown.

19 A close helmet, of bright steel, the skull embossed with knullings radiating to the crown, which terminates in an
32 1 - acorn-shaped finial—*probably Polish, early 17th Century* Dr. Williams

10. 20 A set of plates of a pair of 16th Century sleeves — Brown

21 A pair of laminated tassets, decorated with engraved lines, reaching to the knee and detachable mid-way—*German, early 17th Century* — Andrade
1

1 22 A pair of fluted cuisses; and two others — Williams

23 A PEYTREL, of bright steel, formed of three plates assembled together by means of hinged staples and thumb-screws,
16. the plates finely moulded to the form of the horse's breast are plain, with recessed border bands—*stamped with the Nuremberg guild mark*—*German, circa* 1520 — Fenton

6. 24 A pair of 17th Century laminated tassets — do

25 A DEMI-SUIT OF LANDSKNECHT ARMOUR, consisting of a burgonet helmet with hinged cheek-plates, tapul breast-plate and back-plate, gorget with espaliers decorated with engraved lines—*German, middle 16th Century* — do

26 A DEMI-SUIT OF LANDSKNECHT ARMOUR, composed of a burgonet helmet, gorget with laminated espaliers, breast-
10 plate with finely roped turnover and gussets, detachable tace to which are attached the laminated tassets—*German, middle 16th Century* and a back plate. — Brown

27 A PEYTREL, of bright steel, composed of three plates with re-
10 cessed borders—*stamped with the Nuremberg armourers' guild mark*—*German, 16th Century* — do

28 A CHANFRON, of bright steel, fluted in the manner termed
2 Maximilian—*German, commencement of 16th Century* — Pollak

29 A CHANFRON, of bright steel, fluted in the manner termed
1 Maximilian—*German, commencement of 16th Century* — Williams

30 A demi-suit of Landsknecht armour, consisting of a burgonet helmet with hinged cheek-plates, gorget with laminated
17 espaliers attached, tapul breast-plate, back-plate decorated with incised lines, and radiating vertical bands—*German, middle 16th Century* — Fenton

31 A demi-suit of armour, composed of a burgonet helmet, breast-plate and back-plate, tassets, gorget with espaliers — Brown

32 A 16th Century tapul breast-plate and back-plate, of small proportions, presumably for a youth; attached to the
8 breast-plate is a tace of three plates—*German* — Fenton



11 Зак. 2302

37. 16. 33 A CHANFRON, of bright steel, fluted in the manner termed Maximilian—*German, commencement of 16th Century* Brown

21 34 A reinforcing pauldron, of bright steel, pierced for attachment to the left shoulder—*German, early 16th Century* Fenton

21 35 A demi-suit of armour, composed of a burgonet helmet with pronounced high comb, tapul breast-plate and back-plate, gorget with espaliers—*German, middle 16th Century* Brown

8 8 36 Four back-plates—*German, 16th Century* Fenton

58 16. 37 A CHANFRON, of bright steel, fluted in the manner termed Maximilian—*German, commencement of 16th Century* Pollak

48. 6. 38 A gorget, and a pair of pauldrons, with passe-guards attached by means of thumb-screws, bright steel, with a cable border to all the plates and recessed bands—*German, early 16th Century* Fenton

50 8. 39 A tuille tasset, of bright steel, embossed with a fleur-de-lys ornament, and scale border with recessed band; a back-plate, similar in style and presumably forming part of the same harness; and a tuille tasset, embossed with a warrior—*German, middle 16th Century* do

13 13 40 A cabasset helmet, a gorget-plate, a breast-plate engraved with radiating vertical lines, and a pair of pauldrons Brown

12 12 41 A pair of 16th Century pauldrons, of fine quality, with roped borders do

15 15 42 A pair of 16th Century pauldrons, of fine quality, with roped borders do

18 18 43 Three pairs of laminated tassets; and one, similar, embossed with a fleur-de-lys ornament Fenton

11 11 44 A pair of laminated shoulder plates, with recessed bands, and decorated with an embossed foliated ornament; and a tasset, belonging to the same suit, a knee-cop, and a gorget plate, decorated with incised lines do

10 10 45 A 17th Century Savoyard helmet; and one other do

45 3 46 A CHANFRON, of bright steel, fluted in the manner termed Maximilian—*German, commencement of 16th Century* Pollak

17 17. 47 A 16th Century armet, fluted in the manner called Maximilian, with low roped comb, the visor missing Fenton.

9 48 A 16th Century gorget plate, decorated with incised lines; and a miscellaneous lot of plates — Fenton

7 49 A burgonet helmet, of bright steel, with high comb; and two others — do

10 50 A tace, with detachable tassets, of small proportions, presumably belonging to a late 16th Century suit of a boy — do

12 51 A 16th Century gorget plate; a pair of laminated tassets; and a pair of plain steel tassets — Brown

3 52 A conical helmet, of bright steel, terminating in a long point, the border engraved with a floral pattern; and three other helmets — do

5 53 Two sets of saddle steels, fluted and inlaid with latten bands —*German, early 16th Century* — Fenton

1 54 A set of three saddle plates, of bright steel, decorated with recessed bands and roped borders, and embossed with a fan-shaped ornament—*German, early 16th Century* — do

55 A FULL SUIT OF ARMOUR, of bright steel, composed of an armet with low roped comb, bellows-type visor and laminated couvre nuque is of fine quality; the breast-plate of globose form with hinged lance-rest is remarkable for the cabelling of the turn-over and gussets, which are of large proportions, and the accuracy in the modelling of a spiral over spiral, and is stamped with the Nuremberg guild mark; the back-plate, in addition to the guild mark, is also stamped with an armourer's mark, a shield bearing a plumed helmet with the monogram F.S.; the leg defences are complete with cuisses, knee cops, jambs and spatulated sollerets—*German work, circa* 1540–1550 — Brown

9 56 Five 16th Century saddle-plates, fluted diagonally in the manner called Maximilian, bordered with a boldly moulded cable — Fenton

11 57 Four saddle-plates, with applied roped borders—*German, 16th Century* — do

15 58 A CHANFRON, of bright steel, fluted in the Maximilian manner; and a set of saddle-plates, similarly fluted—*German, early 16th Century* — Williams

8 59 A CHANFRON, of bright steel, fluted in the Maximilian manner; and a set of saddle-plates, similarly fluted—*German, early 16th Century* — do

210 - -

60 A 16TH CENTURY SUIT OF ARMOUR, of small proportions, presumably for a boy; the suit consists of an armet, gorget, peascod form breast-plate with laminated tassets, back-plate with garde-de-rein, cuisses, jambs and bear-paw sollerets; the entire suit of blued "Pavanazzo" steel—*probably Savoyard, about* 1560–1580 Brown

7 7

61 A two-handed sword, the hilt with drooping quillons, together with the pommel, is decorated with a hatched pattern, and within the ring-guard is wrought the fleur-de-lys of Munich; the fine quality blade broadening at the point retains its original leather-bound ricasso grip—*German, middle 16th Century* Fenton.

31 10 -

62 An early 16th Century vam-plate, of bright steel, with facetted border Pollak

17 17

63 A pair of fluted cuisses, with knee-cops—*German, early 16th Century* Fenton

24 3

64 A pair of fluted cuisses, with knee-cops; and two others—*German, early 16th Century* do

78 12

65 A chanfron, of bright steel, fluted in the Maximilian manner; and a set of saddle plates, similarly fluted—*German, 16th Century* do

65 2

66 A FINE CHANFRON, of bright steel, with pronounced midial keel-shaped ridge, fluted in the manner called Maximilian; attached to the frontal is a shield of plain steel—*German, circa* 1500 Black Bobbé

73 10

67 A CHANFRON, of bright steel, with pronounced midial keel-shaped ridge; and a set of steel saddle plates; enriched with latten bands—*German, 16th Century* Brown

35 14

68 A PEYTREL, of bright steel, formed of three plates assembled by means of hinged staples and thumb-screws; the plates finely moulded to the form of the horse's breast are plain with recessed border bands—*stamped with the Nuremberg guild mark—German, circa* 1520 Fenton

23 2.

69 Four fluted cuisses, with knee-cops—*German, early 16th Century* Brown

23 2

70 Six fluted cuisses, with knee-cops—*German, early 16th Century* do

71 A PEYTREL, of bright steel, formed of three plates assembled by means of hinged staples and thumb-screws; the plates finely moulded to the form of the horse's breast are plain with recessed border bands—*stamped with the Nuremberg guild mark—German, circa* 1520

14 Brown

72 A set of saddle plates, of bright steel, fluted and decorated with a scale-pattern border within recessed bands—*German,* 16*th Century*

5- Fenton

73 A fluted chanfron, and a set of saddle steels, decorated with latten bands—*German,* 16*th Century*

4 Brown

74 An early 16th Century vam-plate, of bright steel, with facetted border

19 Pollak

75 An early 16th Century vam-plate, of bright steel, with facetted border

10. Fenton

76 A PEYTREL, of bright steel, formed of three plates assembled by means of hinged staples and thumb-screws; the plates finely moulded to the form of the horse's breast are plain with recessed border bands—*stamped with the Nuremberg guild mark—German, circa* 1520

16. do

77 A 16th Century peytrel, of bright steel, pierced with a flame-like ornament, and bordered with recessed bands

15- Pollak

78 A set of 16th Century saddle plates, fluted and inlaid with latten bands; and a miscellaneous quantity of other plates

5- Fenton

79 A defence for the right arm, consisting of a pauldron, rere and vambrace, with elbow-cop of bright steel—*German,* 16*th Century*

16 6 Brown

80 A breast-plate, of peascod form, together with its laminated tasset and back-plate, decorated with etched vertical bands radiating from the waist, composed of Cherubs' heads, and circular medallion portraits upon the breast—*North Italian, circa* 1580

3 - do.

# ДАСПЕШНЫ ГАРНІТУР МІКАЛАЯ РАДЗІВІЛА ЧОРНАГА
## КУНЦ ЛОХНЕР, НЮРНБЕРГ, КАЛЯ 1555
## (ЗАХАВАНЫЯ ЧАСТКІ АБВЕДЗЕНЫ ТЛУСТАЙ ЛІНІЯЙ)




# ДАСПЕШНЫ ГАРНІТУР РАДЗІВІЛАЎ З НЯСВІЖА
## 2 ПАЛОВА XVI СТ.
## (ЗАХАВАНЫЯ ЧАСТКІ АБВЕДЗЕНЫ ТЛУСТАЙ ЛІНІЯЙ)



# Літаратура

*Бохан Ю.М.* Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV — канца XVI ст. Мн.: Экаперспектыва, 2002. 336 с.

Государственная Оружейная палата / И.А. Бобровницкая, Л.П. Кириллова и др. М.: Советский художник, 1988. 432 с.

*Денисова М.М., Портнов М.Э., Денисов Е.Н.* Русское оружие: Краткий определитель русского боевого оружия XI—XIX веков / Комитет по делам культ.-просвет. учреждений при Сов. Мин. РСФСР; Науч.-исслед. ин-т краевед. и музейной работы; Под ред. Г.А.Новицкого. М.: Госкультпросветиздат, 1953. 167 с.

*Дук Д.У.* Справаздача аб палявых археалагічных даследаваннях у горадзе Полацку ў 2001 годзе // Архіў НАН Беларусі, № 1921.

Радзивилловская летопись: В 2 т. / Отв. ред. М.В. Кукушкина; Худож. В.А. Крючков. М.: Искусство, 1994. Т. 1: Факс. воспроизведение рукописи.

*Толочко П.П.* Кочевые народы степей и Киевская Русь. Киев: Абрис, 1999. 200 с.

Katalog zabytkow tatarskich. Warszawa: Res Publica Multiethnica, 1997. T. I: Bron i uzbrojenie tatarow / Przygotowal J. Gutowski. 140 s.

*Müller H., Kölling H.* Europöische Hieb-und-stichwaffen aus der Sammlung des Muzeums für Deutsche Geschichte. Berlin: Militarverlag der Deutschen Demokratischen Republik, 1981. 448 s.

*Müller H., Kunter F.* Europöische helme aus der Sammlung des Museum für Deutsche Geschichte. Berlin: Militarverlag der Deutschen Demokratischen Republik, 1984. 314 s.

*Mazeikienie O.* XIV—XIX a. Ginklai: Katalogas. Vilnius: LTSR Istorijos-etnigrafijos muziejaus leidinys, 1979. 187 p.

Polska technika wojskowa do 1500 roku / Pod red. A. Nadolskiego. Warszawa: Oficyna Naukowa, 1994. 440 s.

*Thordeman B.* Armour from the battle of Wisby 1361. Chivalry Bookshelf, 2001. XIII, 481 p.

*Zygulski Zd.* Bron w dawnej Polsce na tle uzbrojenia Europy i Bliskiego Wschodu. 2-e wyd. Warszawa: PWN, 1982. 335 s.

*Zygulski Zd.* Stara bron w polskich zbiorach. Warszawa: Krajowa Agencja Wydawnicza, 1982. 276 s.

*Zygulski Zd.* Swiatla Stambulu. Warszawa: Wydaw. DiG, 1999. 380 s.

# Змест